

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА





Газета выходзіць з сакавіка 1990 года — № 4 (843) — 23 СТУДЗЕНЯ 2008 г.


## БЕЛАРУСЬ АБАВЯЗАЛАСЯ ШАНАВАЦЬ РОДНУЮ МОВУ

Беларусь стала 17-ай краінай у свеце, што далучылася да міжнароднай канвенцыі ЮНЕСКА "Аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны". Такім чынам дзяржава ўзяла на сябе абавязкі па захаванні не толькі фальклору ды абрадаў, але і беларускай мовы.

Афіцыйны эксперт Рэспублікі Беларусь у галіне нематэрыяльнай спадчыны, што прадстаўляе нашу краіну на адпаведных паседжаннях ЮНЕСКА, **Ала Сташкевіч** кажа, што з кожным годам усё цяжэй і цяжэй захоўваць нематэрыяльныя духоўныя каштоўнасці – глабалізацыя ідзе і падмінае ўсё пад сябе. Як самы апошні прыклад гэтаму эксперт прыводзіць навагодні тэлепраект "Павлинка-New".

- Мне здаецца, што гэта прыклад пошласці, прабачце. Таму што так вольна паступаць са спадчынай Купалы нікому не дазволена, гэта проста нонсенс.

Па словах Алы Сташкевіч, далучэнне Беларусі да канвенцыі "Аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны" прадугледжвае не толькі парадкаванне адмысловага архіву і штогадовы маніторынг справаў у гэтай галіне, але і стварэнне адпаведнай дзяржаўнай сістэмы аховы – ад нізу да верху. Гэта пакуль слабае звяно, - канстатуе эксперт.

- Тут неабходна цэлую палітыку выпрацоўваць на ўзроўні дзяржавы. На ўзроўні не толькі міністэрства культуры, але і сістэмы адукацыі, падключыць сюды СМІ. Гэта мусіць быць дзяржаўнай інвестыцыйная праграма, якая бы ўключала ўсе аспекты.

Якраз з нагоды далучэння Беларусі да міжнароднай канвенцыі ЮНЕСКА аб ахове духоўнай спадчыны, адбылося афіцыйнае паседжанне. Старшыня камісіі па адукацыі і культуры палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Здановіч** паведаміў беларускаму тэлебачанню, што па яго выніках былі прынятыя рэкамендацыі, якія ён назваў "вельмі сур'ёзнымі".

- Рекомендации касаются приведения в соответствие нашего белорусского законодательства с конвенцией, которая была принята об охране нематериального духовного наследия. И, конечно, переданы рекомендации конкретным министерствам и ведомствам, как организовать всю эту работу в Республике Беларусь, чтобы данный процесс стал действительно полноценным.

**Валянцін Тарас** не хаваў свайго стаўлення да падобных справаздачаў ад прадстаўнікоў уладаў яшчэ ў далёкія 60-ыя. Тады пісьменніка звольнілі з пасады загадчыка аддзелу прозы ў часопісе "Нёман" за "антысавецкія настроі". Літаратар лічыць паказальным хоць бы той факт, што сённяшнія беларускія чыноўнікі нават пра неабходнасць захавання беларускай спадчыны кажуць па-руску.

Валянцін Тарас сумняецца ў тым, што дзяржава здольная захаваць нацыянальную духоўную спадчыну. На меркаванне літаратара пачынаць трэба з сістэмы адукацыі. А ў беларускіх школах цяпер нават гісторыю Беларусі выкладаюць па-руску.

*Сяргей БУДКІН.*

## УДЗЕЛЬНІКІ КРУГЛАГА СТАЛА Ў МЕНСКУ ВЫСТУПІЛІ ЗА СТВАРЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА КААРДЫНАЦЫЙНАГА ЦЭНТРА ПА АХОВЕ І ВЫВУЧЭННІ НЕМАТЭРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

**Удзельнікі круглага стала, што адбыўся 15 студзеня ў Менску па ініцыятыве Нацыянальнай камісіі Беларусі па справах ЮНЕСКА, выступілі за стварэнне нацыянальнага каарыданацыйнага цэнтра па ахове і вывучэнні нематэрыяльнай культурнай спадчыны.**

Старшыня Беларускага камітэта Міжнароднай рады музеяў (ICOM) Ала Сташкевіч узгадала, што 29 снежня 2004 года Беларусь далучылася да міжнароднай канвенцыі ЮНЕСКА 2003 года "Аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны". Да яго аб'ектаў, паводле слоў А.Сташкевіч, адносяцца творы фальклору і выканаўчага майстэрства, звычаі, абрады і святы, а таксама веды, звязаныя з традыцыйнымі рамёствамі. "Гаворка ідзе аб жывой спадчыне, што перадаецца з пакалення ў пакаленне і прызнаецца супольнасцямі — носьбітамі нематэрыяльнай культурнай спадчыны", — патлумачыла А.Сташкевіч.

Паводле яе слоў, для захавання самабытнасці і самаідэнтыфікацыі супольнасцяў ва ўмовах глабалізацыі неабходна зрабіць захады па зборы, захаванні і выкарыстанні нематэрыяльнай культурнай спадчыны (НКС). Сярод такіх захадаў А.Сташкевіч назвала стварэнне дзейнай сістэмы ўліку НКС і яго нацыянальнага рэестра, распрацоўку адпаведнай дзяржаўнай комплекснай праграмы, уключэнне элементаў НКС краіны ў Рэпрэзентацыйны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва і ўнясенне прапаноў для спісу аб'ектаў НКС, якія маюць патрэбу ў тэрміновай ахове.

Супрацоўнікі Інстытута праблем культуры выказалі заклапочанасць планамі закрыцця сваёй установы, спецыялісты якога займаліся пытаннямі вывучэння і аховы нематэрыяльнай культарнай спадчыны. Яны выступілі за ўвядзенне курса "Беларуская традыцыйная культура" ў школьны курс сусветнай мастацкай культуры і ў адпаведныя курсы ВНУ.

Старшыня ГА "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры" Антон Астаповіч здзіўлены, што на паседжанне не былі запрошаны прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў. У інтэрв'ю БелаПАН ён назваў мерапрыемства фармальным, паколькі палажэнні яго выніковага дакумента не дазваляюць захаваць нематэрыяльную культурную спадчыну. На думку А.Астаповіча, гэта можна зрабіць толькі на аснове роднай мовы і пашырэння сферы яе ўжывання. "Калі няма носьбітаў беларускай мовы, як можна гаварыць аб захаванні вуснай паэтычнай творчасці або народных абрадаў?" — сказаў старшыня таварыства.

***Марат Гаравы, БелаПАН.***

## 420 гадоў трэцяму Статуту Вялікага Княства Літоўскага



**Статут Вялікага Княства Літоўскага** 1588, Трэці статут Вялікага Княства Літоўскага, звод законаў феадальнага права, які дзейнічаў у ВКЛ з 1589, а пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі — у Віцебскай і Магілёўскай губ. да 1831, у Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губ. да 1840. Пасля таго як быў прыняты Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566, кадыфікацыйная работа не спынілася. Ужо на Берасцейскім сойме 1566 было папраўлена некалькі артыкулаў. Праз 2 гады Гарадзенскі сойм унёс папраўкі ў некаторыя артыкулы і стварыў камісію для дапрацоўкі Статута. Камісія для выпраўлення Статута была выбрана і на Люблінскім сойме 1569. Крыніцы для распрацоўкі Статута 1588 — Статуты ВКЛ 1529 і 1566, соймавыя пастановы 1573, 1578 (гл. Паправы статутовыя 1578), 1580 і 1584, прывілеі, пастановы павятовых соймікаў. Да канца 1584 работа над Статутам была скончана, але ў сувязі з тым, што ён ігнараваў акт Люблінскай уніі 1569, прадстаўнікі Польшчы не дапускалі яго зацвярджэння на агульным сойме Рэчы Паспалітай. Каб захаваць вялікакняскі трон, **Жыгімонт III Ваза зацвердзіў Статут сваім прывілеем 28.1.1588 г.**

Статут 1588 падрыхтаваны на высокім тэарэтычным узроўні кваліфікаванымі прававедамі пад кіраўніцтвам канцлера ВКЛ А.Б.Валовіча і падканцлера Л.І.Сапегі. У Статут увайшлі нормы дзярж. (канстытуцыйнага) права, чаго на той час не было ў заканадаўчай практыцы інш. еўрапейскіх дзяржаў. Ён абагульніў тагачасныя дзярж.-прававыя ідэі, некаторыя з іх апярэджвалі свой час. У Статуце знайшла адлюстраванне тэорыя падзелу ўлад на заканадаўчую (сойм), выканаўчую (вял. князь, адм. апарат) і судовую (Трыбунал ВКЛ, земскія і падкаморскія суды, выбарныя і незалежныя ад адміністрацыі). Статут 1588 мае 14 раздзелаў і 488 артыкулаў. У 1-4-м раздзелах змешчаны нормы дзярж. права і судовага ладу, у 5-10-м і часткова ў 13-м - шлюбна-сямейнага, зямельнага і цывільнага права, у 11-12, 14-м і часткова ў 13-м - крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права. Ідэі Рэфармацыі і верацярпімасці замацаваны ў арт. 3-м раздз. 3-га, паводле якога вял. князю і ўсім дзярж. органам прадпісана забяспечваць спакой усіх жыхароў дзяржавы, незалежна ад таго, якога вучэння яны прытрымліваюцца ў хрысціянскім веравызнанні (акт Варшаўскай канфедэрацыі 1573).

Статут ВКЛ 1588 выкарыстоўваўся пры кадыфікацыі ў канцы 16 ст. прускага права, складанні Саборнага ўлажэння 1649 у Расіі, афіцыйна незацверджаных укр. зборнікаў «Права, за якими судится малороссийский народ» (2-я чвэрць 18 ст.), «Суд и розправка в правах малороссийских» (1750—58). У заканадаўстве і судах Польшчы, Латвіі, Эстоніі ўжываўся як дадатковая крыніца права. Статут 1588, пераважна ў рэдакцыі 1614, быў гал. пісьмовым зводам дзеючага права на Украіне (у Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губ. дзейнічаў да 1840). У 17-19 ст. перакладзены на рус, укр., нямецкую, французскую, лацінскую мовы.

Статут упершыню надрукаваны на старабел. мове ў 1588 у Віленскай друкарні Мамонічаў пад наглядам падканцлера Сапегі. Выданне яго двойчы паўторана (каля 1592—93 і каля 1600) з выхадной датай «1588». У 1614, 1619 і каля 1623 (з датай «1619») Л.Мамоніч выдаў Статут на польскай мове. У 1648 Статут на польскай мове надрукаваў у Варшаве каралеўскі друкар П. Элерт. Наступныя польскамоўныя выданні выйшлі ў Віленскай акадэмічнай друкарні ў 1693, 1744, 1786 і ў друкарні А. Марціноўскага ў Вільні ў 1819. У 1811 Статут у перакладзе на польскую і рус. мовы выдадзены ў С-Пецярбургу, у 1854 — у Маскве і ў 1938 у Каўнасе на старабел. мове.


*(Працяг тэмы на ст. 8.)*

# Аўстрыйскі славіст – Фердынанд Нойрайтэр

З Аўстрыі да нас прыйшла сумная вестка: 31.12.2007 беларуская культура страціла аднаго з актыўных і шчырых сваіх прыяцеляў – перакладчыка і папулярызатара, вядомага аўстрыйскага славіста Фердынанда Нойрайтэра. Шлях яго да нашага прыгожага пісьменства быў працяглым і нялёгкім., пра што ён цікава піша ў сваіх успамінах «Мой шлях да Беларусі».



*Фердынанд Нойрайтэр*

Нарадзіўся ён 15 чэрвеня 1928 г. у Рызе. У 1937 г. пераехаў у Нямеччыну, дзе закончыў народную школу і класічную гімназію ў Страсбургу, ва універсітэце ЗША вывучаў англійскую мову. І толькі ў пасляваенны час у 60-я гг. у яго узнікае павышаная цікавасць да гісторыі славянскіх народаў, у тым ліку беларускага. Тады і распачаў ён у Зальцбургскім народным універсітэце чытанне курса лекцый «Менш вядомыя народы Еўропы». З гэтай нагоды ён настойліва вывучае беларускую мову, культуру і гісторыю, а для лекцый універсітэта перакладае вершы Я. Купалы. Я. Коласа. М. Багдановіча. Р. Барадуліна.

Наступны этап беларусазнаўчай дзейнасці Ф. Нойрайтэра фармаваўся пад уплывам двух вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху: айца Аляксандра Надсана з Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане, які прапанаваў яму скласці хрэстаматыю па беларускай літаратуры і Юры Попкі, што заснаваў у Ляймяне ў 1982 г.. Беларускі музей, Інстытут Беларусаведы, а затым і яго друкаваны орган «Весткі Інстытута Беларусаведы».

Безумоўна, стварыць анталогію літаратуры справа даволі складаная, нават для спецыялістаў роднай літаратуры, тым больш замежнай. І хаця Нойрайтэр пасля выдання «Кашубскай анталогіі», «Гісторыі кашубскай літаратуры» меў пэўны досвед у складанні хрэстаматыі літаратуры, тым не менш выданне анталогіі па беларускай літаратуры вымагала ад яго вялікага напружання. Такая спроба заўсёды выклікае нейкія ваганні, сумненні.. Таму, натуральна, ёсць недахопы і ў «Беларускай анталогіі» Ф. Нойрайтэра., пра што піша ў сваёй рэцэнзіі А. Латышонак. Аднак, не будучы добра знаёмым з распаўсюджаннем беларускай літаратуры ў нямецкамоўным асяроддзі, ён дапускае і шэраг агрэхаў.

«Беларуская анталогія. Хрэстаматыя па беларускай літаратуры з нямецкімі перакладамі» Нойрайтэра, выдадзеная ў 1983 годзе ў Мюнхене, была каштоўным дапаможнікам для знаёмства і папулярызацыі беларускай літаратуры ў нямецкамоўным асяроддзі. Яна была асабліва неабходнай для заходнееўрапейскіх славістаў, якія чыталі лекцыі ў нямецкіх універсітэтах па славістыцы. Хаця ў ГДР выдавалася шмат беларускіх літаратурных твораў, значна больш чым на Захадзе, аднак у час супрацьстаяння дзвюх сістэм да іх не было поўнага даверу.

Большасць з беларускай літаратуры, што выдавалася ў ГДР у 50-ыя гады, была прасавецкая і не адпавядала рэчаіснасці. Аднак, пасля смерці Сталіна пачалося выданне і лепшых твораў Я. Коласа, К. Крапіва, Я. Брыля, І. Шамякіна, І. Мележа, В. Быкава, У. Караткевіча, А. Кудраўца. А ўжо ў 70-ыя гады ў кнігу беларускай прозы «Буслы над балотамі» (1971), што падрыхтаваў нямецкі славіст Н. Рандаў, былі ўключаны творы нават рэпрэсаваных пісьменнікаў, якіх у савецкай Беларусі ў той час не друкавалі: М. Гарэцкага, Я. Нёманскага М. Зарэцкага, Я. Скрыгана. В. Сташэўскага, В. Каваля, П. Галавача, Л. Калюгі і інш. Аднак для поўнага выяўлення сапраўднага аблічча беларускай літаратуры гэтага было не дастаткова. Тут галоўным чынам была прадстаўлена беларуская проза. Таму «Анталогія» Нойрайтэра выдатна дапаўняла кнігу беларускай прозы «Буслы над балотамі», а таксама кнігу М. Маскаліка «Янка Купала. Пясняр беларускага народа» (1961).

Дзякуючы выданню Нойрайтэра, пашыраўся дыяпазон беларускага прыгожага пісьменства. Ён зрабіў для «Анталогіі» пераклады ў прозе сямідзесяці васьмі вершаў, пятнаццаці ўрыўкаў з прозы ды чатыры з драматычных твораў. Апрача таго, кожнаму аўтару, творы якога змешчаны ў «Анталогіі», не толькі давалася характарыстыка ва ўступным нарысе, але прысвячалася і кароткая біяграфічная даведка. Прадстаўлена трыццаць дзевяць паэтаў і пісьменнікаў і ўрывак знакамітай паэмы «Тарас на Парнасе». Укладальнік выявіў, што ён добра знаёмы з беларускай літаратурай, не толькі той, што друкавалася ў Беларусі савецкай, але і за яе межамі. Змясціў, акрамя таго, творы зарубежных беларускіх пісьменнікаў, што было для таго часу вельмі важным, каб паказаць, што беларуская літаратура існуе і ў эміграцыі.

. Упершыню, дзякуючы выданню «Анталогіі», на нямецкай мове загучалі вершы М. Танка, праўда, раннія. Адсутнасць верша М. Багдановіча «Пагоня», за што папракае Ф. Нойрайтэра ў рэцэнзіі «Нямецкая анталогія беларускай літаратуры» А. Латышонак («Ніва», 5.06. 1983) была абумоўлена неабходнасцю пазбегнуць небяспекі нападкаў на кнігу за нібыта нацыяналістычны характар яе.

Хаця пра беларускую мінуўшчыну на нямецкай мове гаварылася ўжо ў паслямове да кнігі «Буслы над балотамі», прадмова Нойрайтэра да «Анталогіі» мела важнае значэнне. У ёй яшчэ раз аўстрыйскі славіст напамінае нямецкамоўнаму чытачу пра малавядомую гісторыю беларускай літаратуры, звяртаючы асобую ўвагу на фармаванне яе ў Вялікім Княстве Літоўскім, калі беларуская культура адыгрывала галоўную ролю ў сферы матэрыяльнага і духоўнага жыцця краю, піша пра дзяржаўнасць беларускай мовы і пра „залаты век" у Беларусі, пра шаснаццатае стагоддзе як пра перыяд найвялікшага росквіту і найбольшых дасягненняў беларускага народу ў культурнай сферы ў старажытныя часы, пра славутага Скарыну і іншых. Шмат увагі ў «Анталогіі» аддаецца нацыянальнаму адраджэнню Беларусі ў XIX і на пачатку XX стагоддзя.

Выданне «Беларускай анталогіі. Хрэстаматыі па беларускай літаратуры» мела важнае значэнне: гэта быў першы найбольш шырокі падбор беларускіх літаратурных тэкстаў у арыгінале і з перакладамі на нямецкую мову. а таксама адпаведнымі каментарыямі. «Анталогія» Ф. Нойрайтэра атрымала шматлікія добразычлівыя водгукі. Разглядаючы гэтае выданне. крытык з Беластока А. Латышонак у газеце «Ніва» пісаў, што «Анталогія» – гэта «выключна карысная для папулярызацыі беларускай літаратуры ў Еўропе нямецкамоўная кніга, зробленая аўстрыйскім даследчыкам і перакладчыкам.».

У Аўстрыі «Анталогія» таксама было спаткана з цікавасцю.. У рэцэнзіі на яе Ст. Гафнэр з Граца. надрукаванай у часопісе «Правы чалавека» (1984), аўтар даў не толькі высокую ацэнку "Анталогіі" Ф. Нойрайтэра, а ў працэсе яе аналізу выявіў высокую дасведчанасць у галіне гісторыі беларускага прыгожага мастацтва. Ён асабліва звяртае ўвагу на тое, што у сваёй анталогіі Нойрайтэр даў узоры творчасці Я. Купалы і Я. Коласа, заснавальнікаў беларускай нацыянальнай літаратуры, а таксама годна рэпрэзентаваў шмат іншых пісьменнікаў і паэтаў Беларусі, «творы якіх заслугоўваюць таго, каб яны гучалі ў многагалосным хоры нацыянальных літаратур Еўропы».

У 80-ыя гады Ф. Нойрайтэр па ініцыятыве Ю.Попкі зрабіў некалькі цікавых выданняў. Ён пераклаў раман Ю. Попкі "Свеціць у смузе", даследаванне Р. Астроўскага "Беларусь з X па XVI стагоддзе", серыю артыкулаў Ю. Попкі пад агульным назовам "Вытокі беларускай нацыі і культуры". Усе гэтыя працы былі выдадзены ў перакладзе на нямецкую мову ў 1985-1988 гадах Інстытутам Беларусаведы.

Прыезд Ф. Нойрайтэра ў 1990 г. у Беларусь натхніў яго на напісанне артыкула «Янка Купала – паэт з Беларусі». А праз год у «Зальцбургскай народнай газеце" аўстрыйскі папулярызатар беларускай культуры надрукаваў артыкул абагульняючага характару «Беларусь – папялушка Еўропы», дзе паспрабаваў выявіць прычыну таго, чаму наша краіна так мала вядомая на Захадзе.

У траўні 1991 г. Ф. Нойрайтэр удзельнічаў у працы 1-га Міжнароднага кангрэсу беларусістаў, дзе выступіў з паведамленнем «Мой шлях у Беларусь», якое скончыў наступнымі словамі: «Свой артыкул я назваў «Беларусь – папялушка Еўропы», але вы ўсё выдатна ведаеце, што папялушка ў канцы канцоў становіцца каралевай. Таго ж жадаю я і Беларусі".

З мэтай шырэйшага і больш кампетэнтнага знаёмства аўстрыйскай грамадскасці з беларускай культурай і асабліва любімай ім народнай творчасцю беларусаў Ф. Нойрайтэр у тым жа годзе арганізаваў у Аўстрыі гастролі беларускага фальклорнага ансамбля «Неруш». Ансамбль наведаў Зальцбург і некаторыя іншыя гарады ў паўночнай частцы краіны і ўсюды карыстаўся вялікім поспехам. У артыкуле «Кантакты Зальцбургскай славістыкі з Беларуссю» яго выступленні аўстрыйскі славіст Г.Бідэр назваў «сапраўдным трыумфальным маршам па шматлікіх гарадах Аўстрыі». Сам Ф.Нойрайтэр гэтак жа адгукнуўся на такі незвычайны поспех запрошанага ім беларускага ан-самбля, апублікаваўшы ў "Рупрэхтскай газеце" паведамленне «Беларускі фальклорны ан-самбль у Нідэрхальме». Пры гэтым ён звярнуў асаблівую ўвагу на абрады беларускага сялянскага вяселля з усімі яго атрыбутамі: звычаямі, песнямі, танцамі, якія карысталіся адмысловым поспехам у аўстрыйскага гледача .

Найбольш поўная перакладчыцкая спадчына Ф. Нойрайтэра выяўлена ў 2002 г., калі больш за 20 старонак яго перакладаў былі змешчаны ў часопісе «Год беларускі 2002», што выдаецца Сакратам Яновічам у Крынках. Затым яны надрукаваны ў Інтэрнэце пад рубрыкай «Камунікат. Беларуская інтэрнэтная бі-бліятэка», № 2 і № 3 па тры старонкі – усяго больш за 20 перакладаў вершаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, П. Броўкі. Акрамя таго раней верш М.Багдановіча «Пагоня» у яго перакладзе быў выдадзены асобнай улёткай для ўрачыстай Акадэміі, прысвечанай стагоддзю з дня нараджэння паэта, што праводзілася ў 1991 г. у Львоўскім дзяржаўным універсітэце.

***Ул. Сакалоўскі.***
11.01.2008.

PAHONIA

Angst um die Heimat laßt mich erschauern.
In den Sinn kommt mir mächtig und groß
der Ostra Brama heilige Mauern
und die Recken auf grimmigen Roß.

Schweißtrieien galloppieren die Rappen,
ihr schweres Schauben weithin erschallt.
Die Pahonia, Alt-Litauens Wappen
wiedersteht jeder Not und Gewalt.

Fort in die Ferne sieht man euch schwinden,
vor euch und hinter euch - Ewigkeit.
Wen wollt ihr in solcher Eile finden?
Wohin nur führt euch der Weg so weit?

Weißrusland wisse, die Recken reiten
und machen auf deine Kinder Jagd,
die Tod und Verachtung dir bereiten
und sich von der Heimat losgesagt.

Schlagt sie ins Herz, das Schwert in der Rechten,
laßt nie und nimmer sie Fremde sein,
ihr Herz soll fühlen in dunklen Nächten
der Heimat zuliebe Schmerz und Pein.

Heimatland liebes, Mutter, du linde,
dieser Schmerz wird auf ewig bestehn.
Nimm es auf und verzeih deinem Kinde,
es will gern in den Tod für dich gehn.

Weiter trieben die Recken die Rappen,
ihren Rüstungen Klirren verhellt...
Die Pahonia, Alt-Litauens Wappen
widersteht jeder Not und Gewalt.

Пераклав Фердінанд Нойрайтер

*«Пагоня» М.Багдановіча. Пераклад на нямецкую мову Фердынанда Нойрайтэра*





***Фердынанд Нойрайтэр***

# Мой шлях да Беларусі*

Патроху цікавіўся я замежнымі мовамі, асабліва малавядомымі, і ўжо ў чатырнаццаці гадовым узросце набыў сабе кніжачку «Руская для салдат», якую старанна пачаў вывучаць. Мае бацькі аднак лічылі гэта проста баўленнем часу, а маю ўвагу звярталі на англійскую і французскую. Аднак я не раскайваюся ў тым, бо веды па французскай мове набыў у палоне падчас вайны, а дзякуючы маёй дасведчанасці ў англійскай мове я атрымаў стыпендыю у Злучаныя Штаты Амерыкі….

Між іншым я не забыўся свайго юнацкага захаплення і адразу ж пасля Другой Сусветнай вайны, калі ўбачыў у адным з венскіх антыкварыятаў маленькую кніжачку пад назовам «Беларускі моўны дапаможнік прызначаны для вясковых работнікаў» (Берлін, 1942) Ганца Лёе, купіў яе за некалькі грошаў (сёння гэтаму майму набытку зайздросціць нават Бібліятэка Францішка Скарыны ў Лондане). Справа тычылася размоўніка для зносінаў з замежнымі работнікамі… Гэта была мая першая беларуская кніга .

На пачатку 60-х гадоў я актыўна пачаў займацца кашубскай і польскай мовамі, вывучыў польскую і з цягам часу набыў столькі ведаў пра польскую літаратуру і культуру, што адчуваў сябе здольным для чытання курса лекцый у Зальцбургскім народным універсітэце пад на-звай «Менш вядомыя народы Еўропы». Пры гэтым, безумоўна, я мог займацца не толькі палякамі, але падключыў і іншыя народы: славакаў, украінцаў. славенцаў а таксама і беларусаў. Аднак знаёмства з апошнімі выклікалі асаблівую цяжкасць, таму што практычна не было аніякага матэрыялу, на які можна было б абапірацца. Адносна гісторыі краіны ары-ентаваўся я на кнігу Аўгена Энгельгарта «Беларусь» (Берлін, 1943), акрамя таго у Мюнхене ў кнігарні Кубон і Загнэр, што спецыялізавалася па ўсходнееўрапейскай літаратуры, набыў том Міхаіла Масваліка «Янка Купала» (Мюнхен, 1961). Тут меліся некаторы пераклады [твораў паэта] на нямецкую мову ў прозе, якія мне, аднак, не спадабаліся. Акрамя таго, я набыў шэраг беларускіх друкаваных кніг, што выдаваліся ў 50-ыя гады эмігранцкім асяродкам у Мюнхене. Хацелася даць сваім слухачам уяўленне пра бела-рускую паэзію, але з прычыны недахопу перакладаў я сам распачаў перакладаць некато-рыя тэксты на нямецкую мову. Аднак, тут я напаткаў вялікія складанасці, таму што аніяк нідзе ў свеце не змог знайсці беларуска-англійскага, беларуска-нямецкага, беларуска–французскага, нават беларуска-польскага слоўніка, які меў бы патрэбныя мне словы. А ад таго, што мае веды па рускай мове не дасягалі больш таго, што «я говорю очень плохо по-русски», я дапамагаў сабе тым, што кожнае слова спачатку шукаў у беларуска-рускім слоўніку, а затым стараўся знайсці яго ў руска-нямецкім. Нягледзячы на гэта, я зрабіў некалькі «мастацкіх» перакладаў з беларускай паэзіі… .

У той жа час я не пакідаў займацца кашубамі і выдаў у пачатку 70-х гадоў, наогул, першую Анталогію кашубскай літаратуры. Яе ўбачыў айцец Надсан з Бібліятэкі Францішка Скарыны і палічыў, што пажадана было б мець падобную анталогію ў нямецкамоўнай прасторы для беларусаў і ўгаварыў мяне паспрабаваць стварыць падобную… Выдавец быў згодны, ды толькі лічыў, што неабходна звярнуць увагу на тое, каб кніга, якая выпускаецца на Захадзе, не разглядалася як нацыяналістычны памфлет. Дзякуючы нястомнай і ўсебаковай дапамозе айца Надсана, яна і з'явілася ў свет у 1983 г. … Неабходна адзначыць, што ў ёй былі змешчаны нязначныя творы некалькіх эмігрантаў, яны былі ўключаны якраз таму, каб беларускі чытач магчыма ўпершыню даведаўся пра іх існаванне. У Польшчы спадар Латышонак меў рацыю, калі крытыкаваў, што я не ўключыў у Анталогію «Пагоню» Максіма Багдановіча па прычыне страху надта вялікага нацыяналізму. Сёння я разумею, што неабходна было гэта зрабіць.

У 1985 г. прапанаваў мне беларускі патрыёт Юры Попка, што жыў тады ў Ляймене каля Гейдэльберга і ўжо, на жаль, памёршы, перакласці на нямецкую мову свой раман «Свеціць у тумане» пад псеўданімам Юры Жывіца. Я ахвотна гэта зрабіў, і ён з'явіўся пад назвай «Licht im Nebel» …

Пра анталогію даве-даўся спадар У. Сакалоўскі з Беларускай Акадэміі навук і між іншым запрасіў і мяне на канферэнцыю ў Менск**, што стала магчыма толькі пасля распаду Савецкага Саюзу. Цяга і захапленне беларускай мовай і культурай выклікала тады цікавасць, і мы ўсе думалі, што якраз настаў час яе квітнеючага развіцця, а таксама і эканамічнага. Аднак, ужо наступная канферэнцыя ў Менску, у якой я прымаў удзел, паказала, што было ўсё не так, як здавалася. Руская мова вельмі моцна ўкаранілася, што наўрад ці ўдасца яе адразу выціснуць, таму што нацыянальная свядомасць беларусаў на працягу дух стагоддзяў прыйшла да заняпаду. У мяне склалася ўражанне, што сярэдні беларус беларускую мову лічыць сялянскай, якой ён саромеецца. З нагоды сустрэчы са студэнтамі беларускага універсітэта ў Менску я запытаў, хто з іх размаўляе дома з бацькамі па-беларуску. Адказ выклікаў пачуццё расчаравання: ніхто. Наступны анекдот выяўляе сітуацыю вельмі да-кладна. “Менск. Чарга людзей чакае таксі. Чалавек падыходзіць і пытае: «Як доўга я павінен тут чакаць?». Адказ гучыць: «Не долго, потому что мы уступаем очередь иностранцам ...” У тым вінавата і палітычная ізаляванасць Беларусі, так што шанец выжыць для беларускай літаратуры і культуры у Беларусі я ўспрымаю песімістычна. Натхняе мяне толькі ўсведамленне таго, што маюцца такія цэнтры як Бібліятэка Францішка Скарыны ў Лондане, якой кіруе айцец Надсан, Віла Сакрата, якую ўзначальвае ваяўнічы Сакрат Яновіч у Крынках (Польша)…. На іх плечы ўскладзены цяпер будучы лёс беларускасці. .Я сам па прычыне свайго ўзросту больш не магу быць носьбітам такой надзеі.

Аднак, спатканне з Беларуссю дало мне мажлівасць пазнаёміцца з такімі цікавымі людзьмі і вітаць іх ва ўласным доме як прафесары: Адам Супрун і яго жонка Анна Кліменко, У. Сакалоўскі, Л. Шакун і іншыя. Я не шкадую ні хвіліны часу, якія я правёў з беларусамі.

** Пераклад У. Сакалоўскага. У перакладзе маюцца вельмі нязначныя скарачэнні.*

*** Гэта была не канферэнцыя, а запрашэнне некалькіх славістаў: Г. Бідэра, Д. Дзінглі, М. Банькоўскай, П. Маё і Ф. Нойрайтэра для арганізацыі пры БДУ Школы беларускай мовы для замежных слухачоў.*

***Ул. Сакалоўскі***

7-13. 01.2008

# У ТАВАРЫСТВЕ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ ПАДВЯЛІ ВЫНІКІ ПРАЦЫ

*“Нашы людзі - пры вядомай,*
*Легендарнай іх цярплівасці -*
*Здольны ўсё стрываць, адолець-*
*Апрача несправядлівасці”...*
*(Ніл Гілевіч.)*

Час бяжыць няўмольна хутка, здаецца нядаўна абмяркоўвалі план працы ТБК на 2006 - 2007 год, а ўжо надышоў час падвясці вынікі, што атрымалася, у якім кірунку трэба далей працаваць. Канец снежня і пачатак студзеня ў таварыстве быў багаты на цікавыя сустрэчы, якія адбываліся незапланаванымі. Новы год сустракалі разам з вядомым сямейным украінскім ансамблем "Світліця" , у пачатку студзеня ў ТБК адбылася сустрэча з Зянонам Пазьняком і Юрыем Бандажэўскім, у снежні чальцы таварыства ўдзельнічалі ўва ўсіх перадачах БЕЛСАТ, якія праходзілі ў Вільні.



***Прэзідыюм: Васіль Акуневіч і Хрыстына Балаховіч***



***Старшыня ТБК Хведар Нюнька робіць справаздачу***

12 студзеня ў ТБК адбыўся выбарчы сход і разам адзначылі Новы-Стары год. Старшыня ТБК Хведар Нюнька распавёў пра дзейнасць арганізацыі за апошнія два гады. За гэты перыяд таварыства выдала каля дзесяці кніг: М.Пецюкевіча “Падарожжа ў Рым”, Ул. Пецюкевіча “Узьняўся белы птах”, пяць кніг Зянона Пазьняка і іншыя. Адбылася прэзентацыя кніг: М.Пецюкевіча “Узняўся белы птах”, М. Казлоўскага “Галасы разбуджаных птушак”, В. Іпатавай “Ахвяры свяшчэннага дуба”, Ул. Коласа”Лёс ліцэя”, адбыліся сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі і дзеячамі культуры, палітыкамі, сярод іх Ул. Арлоў, Л. Баршчэўскі, А. Астапенка, В. Іпатава, Алег Трусаў, Алесь Лозка, таварыства арганізавала і правяло два пікеты ў абарону дэмакратыі ў Беларусі, старшыня таварыства прымаў удзел у канферэнцыях па Беларусі, якія праходзілі ў Вільні, у навуковых канферэнцыях у Сойме Літвы. За апошнія гады чальцы таварыства арганізавалі і правялі некалькі пазнавальных экскурсій па гістарычных мясцінах Беларусі і Літвы- наведалі Гудзевічы, сустрэліся з дырэктарам музея Алесем Белакозам.

На Мядзельшчыне сустрэліся з вядомым краязнаўцам Янкам Драўніцкім, на Шаркаўшчыншчыне- з дырэктарам музея Язэпа Драздовіча Адай Райчонак, у Гародні нас чакаў Ул. Хільмановіч, наведалі Зэльву, пабывалі на магіле Ларысы Геніюш, усклалі кветкі каля яе помніка. Ларыса Геніюш для таварыства з'яўляецца ўзорам служэння Беларусі.

Падзея мінулага года - канферэнцыя беларуска-літоўскія дні культуры, на якую прыехалі беларусы аж э далёкай Аўстраліі, прымала ўдзел Прэзідэнт рады БНР Івонка Сурвіла, у кастрычніку адбылося адкрыццё мемарыяльных табліц у цэнтры горада Вільні Н. Арсенневай і М. Гарэцкага.Такія вынікі працы цешаць беларусаў таварыства.

На жаль, былі і сумныя падзеі: у іншы свет адышлі чальцы таварыства- доктар, вучань ВБГ Г. Астроўскі, паэт М. Паўлоўскі, прафесар філалогіі, дачка Зоські Верас Г. Войцік-Луцкевіч, жаўнер эскадрона Барыса Рагулі Кастусь Шышэя.

Мінулы год прайшоў пад знакам Янкі Купалы і Якуба Коласа, у Вільні адбылося шмат мерапрыемстваў, у якіх прымала ўдзел таварыства, праводзіліся экскурсіі “Шляхамі Якуба Коласа ў Вільні”, як вынік працы, старшыня ТБК Хведар Нюнька ўзнагароджаны дыпломам ТБШ з нагоды 125-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

На мерапрыемстве прысутнічала каля пяцідзесяці чалавек, праца таварыства ацэнена станоўча, было прапанавана пакінуць раду ТБК у ранейшым складзе, старшынём адзінагалосна абраны Хведар Нюнька.



***Андрусь Старавойтаў спявае калядку***

Пасля ўрачыстай часткі Тацяна Райнене прачытала на памяць паэму “Тарас на Парнасе”, гэта для яе, доктара медыцыны, якая з навуковымі дакладамі аб'ехала ўвесь свет, быў артыстычны дэбют. З “Тараса...” пачалося і вывучэнне беларускай мовы. Паэму вывучыла ў памяць мамы, якая заўсёды чытала перад сябрамі, апошні раз - на 80-годдзі Кастуся Шышэі на якім былі і мы з Хведарам Нюнькам. Дэбютам Тацяны Райнене завяршыліся мерапрыемствы з нагоды 125-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. Навагодні верш прачытала самая маленькая ўдзельніца ТБК Ксенія Мілаш, калядныя і прысвечаныя 90 угодкам БНР песні, выканаў Андрусь Старавойтаў, а пасля усе разам спявалі беларускія народныя песні. Святочна, па-навагодняму аформіла залу мастачка Хрысціна Балаховіч, багаты стол беларускіх страў падрыхтавала Ніна Брылеўская. З чаркай гарэлкі,за багатым сталом праводзілі Стары год і сустрэлі Новы 2008 год.




***Тацяна Райнене чытае на памяць паэму “Тарас на Парнасе”***

На перадзе шмат працы на карысць беларушчыны, у захаванні нашай мовы, культуры, гістарычнай памяці.

Жыве Беларусь!

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня.***
***13 студзеня 2008 года.***

# РАЮ НЕ КАРЫСТАЦЦА ПАДОБНАЙ ЛІТАРАТУРАЙ

*Кніга "Зімовыя святы", аўтары-складальнікі якой Аксана Катовіч і Янка Крук, на мой погляд, не адпавядае здароваму сэнсу, бо ў ёй вельмі многа несупадзенняў і незразумелых момантаў. Пачынаючы ад дат сонцастаянняў і раўнадзенстваў да апісанняў свят, якія ў Беларусі ніколі не адзначаліся і невядомы ёй. Гэтае выданне я раіла б адрасаваць расіянам, бо ў ёй амаль што ўсе святы і прысвяткі прысвечаны рускай традыцыі. Калі вывучаць фальклор па Катовіч-Круку, то можа скласціся памылковае ўяўленне пра яго. Каб спраўдзіць свае словы, прывяду наступныя прыклады.*

*Названая кніга сцвярджае, што зімовае сонцастаянне доўжыцца з 18 па 23 снежня, а "ў ноч з 24 на 25 снежня сонца канчаткова разарве путы цемры і пачне новы адлік часу". Нас жа на ўроках астраноміі вучылі, што гэтая зімовая кропка прыходзіцца на 21-22 снежня.*

*Дзіўна таксама і тое сцвярджэнне, што ў сувязі з розніцай ў кліматычных умовах паміж Гомельшчынай і Віцебшчынай, "ўшанаванне дня веснавога раўнадзенства разбеглася ў часе і суадносілася з рознымі датамі і назвамі святаў".*

*Таксама не зразумела, чаму аўтары сцвярджаюць, што месяц праходзіць поўны цыкл за 28 дзён, калі вядомы астранамічны яго цыкл – 29 сутак 12 гадзін 44 хвіліны 3 секунды.*

*Мне падаецца, што многія лічбы ўзяты без абгрунтавання з галавы. Да ведама аўтараў, летняе сонцастаянне – 21-22 чэрвеня, веснавое раўнадзенства – 20-21 сакавіка, а восеньскае – 22-23 верасня (толькі не 21 верасня!).*

*У азначаным выданні я знайшла прысвяткі, якія не адпавядаюць беларускай традыцыі, не зафіксаваны беларускімі фальклярыстамі: Ігнат Баганосец, Пётр-Палукорм, Настасся Посніца, Фядул, Дамачадцаў дзень, Жахлівы дзень, Анісся-паразуха, Малахія-даільніца, Фякцістаў дзень, Емельяны-перазімнікі, Феадор Студзіт, Рыгор-летаўказальнік, Фёдар-Памінальнік, Яфрэм-Ветрадуй, Зімабор, Захарый Серпавідзец, Кірыл-указчык... Не варта ўсё пераказваць, усё перапісана ў Расіі.*

*Я параўнала з кнігай «Русский народный православный календарь» (М., 1997) і выявіла, што большасць прысвяткаў, якія пададзены як беларускія, узяты з расійскіх выданняў і да нашых зямель не маюць някага дачынення.*

*Раю ўсім студэнтам не карыстацца падобнай літаратурай і тым больш выкладаць па ёй у школе.*

***Ганна Тарасевіч,***

*студэнтка 2 курса факультэта народнай культуры БДПУ*

## Каментар дацэнта кафедры этналогіі і фальклярыстыкі БДПУ Алеся Лозкі

Не дзіўна, што нават студэнты і не першы год знаходзяць шмат памылак, навукова не абгрунтаваных сцвярджэнняў у перапоўненых паліцах кнігарняў выданнямі названых аўтараў. У прэсе і на навуковых канферэнцыях было некалькі крытычных выступленняў, але часцей нашы калегі-навукоўцы могуць схавацца пад псеўданімам ці лічаць лепш прамаўчаць, а калі і выгаварыцца эмацыянальна на балючую тэму, то толькі ў вузкім коле.

Тут толькі коратка пра яўныя недахопы і ненавуковыя паводзіны майго калегі па каляндарна-фальклорнаму цэху. Пашыраныя абгрунтаванні маюцца ў маіх і іншых аўтараў навуковых выданнях.

Сапраўды, як заўважыла студэнтка (а ў БДПУ розныя дысцыпліны фальклорна-этнаграфічнага цыклу вывучаюцца не адзін семестр, як на філалагічных факультэтах, а па сутнасці усе пяць гадоў) асобныя астранамічныя веды аўтараў не наблізіліся нават да школьнай праграмы. Здзіўляе пазіцыя некаторых рэдактараў паважаных рэспубліканскіх выдавецтваў, якія прапускаюць хуткаспелыя тоўстыя кнігі без належнай навуковай экспертызы, прынятага парадку рэцэнзавання спецыялістамі. Хоць тыя шматлікія памылкі, што пераходзяць з выдання ў выданне, павінны бачыцца і простаму рэдактару, а не тое, што студэнту.

Янка Крук і сам шукае "памылкі" ў спрадвечных традыцыях беларусаў і заклікае "тэрмінова ўсім народам выпраўляць" ("Сімволіка беларускай народнай культуры". Мн.: Ураджай, 2002. 2-ое выд. С.6). Хіба можна фальклярысту гаварыць пра выпраўленне спрадвечных абрадаў, звычаяў?

Паўнейшы абсурд атрымліваецца і з яго канцэпцыяй парнасці і няпарнасці ў народнай культуры. Пра гэта ўжо былі выступленні. Аўтар спрабуе ўкласці складаную мадэль народнай культуры ў своеасаблівую "табліцу Мендзялеева". Народныя традыцыі настолькі варыятыўныя, што парою маюць значныя адрозненні ў суседніх вёсках і дзіўныя супадзенні ў далёкіх народаў.

Часам свае нечаканыя думкі імкнецца пацвердзіць аўтарытэтам іншых, вольнай інтэрпрэтацыяй чужога меркавання, фармальнага стаўлення да цытаванага. Напрыклад, каб даказаць, што дуб з'яўляўся свяшчэнным дрэвам, "сведчыць той факт, што паасобныя яго часткі (галінкі, кавалачкі) не выкарыстоўваліся ў якасці атрыбутаў у народных абрадах і рытуалах" (с. 291), аўтар галаслоўна спасылаецца на даследаванні пяці навукоўцаў, называючы нават старонкі. Праверыў – і выявілася адваротнае. У прафесара А. Ненадаўца ў кнізе "Святло таямнічага вогнішча" вельмі скурпулёзна і рознабакова апісана магія дрэва ў вераваннях народаў свету і беларусаў. Вось толькі некаторыя ўрыўкі: "Нашы далёкія продкі свята верылі ў цудадзейную сілу трэсачкі дуба, у які ўдарыла маланка, — калі прыкласці да хворага зуба, то боль адразу пройдзе"; "Вакханкі ўпрыгожвалі свае галовы дубовымі лістамі..."; "Польскія сяляне, напрыклад, вешалі лісты дуба на шыю як амулеты...". Прыводзіцца шмат беларускіх прыкладаў, якія супярэчаць думцы Крука.

"На <u>палескіх</u> абшарах рассялення беларусаў <u>добра вядомы</u> абрад "Жаніцьба коміна", які праводзіўся двойчы на год: <u>у дні веснавога і восеньскага раўнадзенства</u>" (с. 305). Далей ідзе спасылка на наша выданне "Восеньскія святы". Але на самай справе вышэйзгаданыя спрэчныя думкі (падкр. намі) я там не выказваў, хоць гэта мяне цікавіла. У сваіх выданнях я даводжу, што згаданы абрад, які праводзіўся 1/14 верасня, быў пачаткам новага года/лета. Вераснёвы каляндарны стыль выкарыстоўваўся ў Расіі з 1493 па 1700 гг., бытаваў у ВКЛ, першыя друкаваныя кнігі Ф. Скарыны гэтаму сведчаць. Малавядомы брад "Жаніцьба коміна (пасьвета)" застаўся ў нашай народнай культуры ўнікальным помнікам выкарыстання вераснёўскага каляндарнага стылю. Праўда, чамусьці ў "Зімовых святах" (Мн.: Мастацкая літаратура, 2004. С.29) аўтары ўжо пішуць: «"кніжны", царкоўны варыянт летазлічэння не атрымаў падтрымкі ў асяроддзі простага народа, таму і не засталося ў фальклоры аб ім ніякіх слядоў» (!?).

Наўмыснае скіраванне кніг у бок практычнай магіі, хоць і робяць выданні папулярнымі сярод кухарак і недасведчаных спажыўцоў усялякіх "цудаў" і веруючых ва ўсё напісанае, выводзіць іх з навуковай арбіты. Неабгрунтаванае "як рабіць, каб не было тое і гэтае", няхай і славесна падмацавае сцверджаннем "мне бабуля перадала", адносіцца да простага вядзьмарства, за якое цяпер не спальваюць на вогнішчы, а ў пераходны перыяд да цывілізацыі бывае ўзносяць да нябёсаў, адкуль затым, праўда, цяжка падаецца.

Адной з недаравальных паводзін навукоўцаў, фальклярыстаў з'яўляецца *крадзеж*, я наўмысна пішу гэтае слова, расейскіх хранонімаў-прысвяткаў і штучае прысабечванне іх у велічны арнамент беларускага народнага календара. У нас свой багацейшы і ўнікальны БНК, чужога нам не трэба, свайго б не згубіць. Ненавукова і абсурдна перакладаць на беларускую мову прыказкі і прыкметы надвор'я, калькаваць хранонімы з чужой культуры, аддаленых рэгіёнаў. Падобнымі і іншымі недарэчнасцямі грашаць таксама выданні іншых аўтараў: «Радуга времени» (Мн.: Ураджай, 1997), «Дзень за днём: Прыкметы надвор'я, а таксама народны каляндар-месяцаслоў» (Мн.: Юнацтва, 1997). У іх не робіцца адпаведная навуковая пашпартызацыя матэрыялу, г.зн., адкуль ён узяты. Нягледзячы на ўсеахопную акупацыю каляндарнага рынку Беларусі рускамоўным масавым "чцівам", падобная літаратура, разлічаная на наіўнага абываццеля, штампуецца і самімі беларусамі, размнажаецца вялікімі выдавецкімі накладамі, дапускаецца па 2-3 перавыданні. Справа ў тым, што цяпер цяжка прабіцца да выдання сур'ёзным навукоўцам з-за "перанасычэння кніжнага рынку" проста макулатурай.

Можа ўжо хоць цяпер адумаемся, калі самі расейцы пацвердзілі "амбіцыйнасць аўтараў" і нікчэмную іх навуковую вартасць. У адным з нумароў саліднага навуковага часопіса «Живая старина» за мінулы год змешчаны даволі крытычны артыкул «В поисках утраченного колеса времени» М.Д.Аляксееўскага з Дзяржаўнага рэспубліканскага цэнтра рускага фальклору (Масква) на манаграфію згаданых аўтараў «Колесо времени: традиции и современность». Зробім далей толькі некаторыя вытрымкі.

«Со стороны это смотрится как попытка очередного открытия Америки... Однако Я.Крук и О.Котович цитируют тексты из "Большой книги магии" страницами, видимо считая их достоверными и аутентичными. Исследователей не смущает даже то, что Н.И. Степанову позиционируют как "сибирскую целительницу", в то время как их монография вроде бы посвящена белорусской народной культуре. Также вызывает удивление, что авторы книги о белорусской культуре безо всяких оговорок используют как заговоры "сибирской целительницы", так и народные календари Владимирской губернии... По большому счёту, авторы выступают лишь в роли компиляторов... не забывают о собственных научных заслугах... почти полстраницы занимает сплошная цитата из монографии одного из авторов книги Я. Крука "Восточнославянские сказки..." .. не повод пространно цитировать их без повода на страницах совсем другой книги... Подобных натяжек на страницах книги так много... Во втором и третьем разделах книги авторские мысли практически отсутствуют... Казалось бы, раз уж книга не состоялась как научное исследование, может быть, она может представлять ценность как систематизированное собрание белорусских поверий и обычаев... складывается ощущение, что авторы, свято верящие в сообщаемые ими поверья, просто неправильно выбрали жанр книги. Вместо того чтобы сочинить практическое пособие по магии в духе "сибирской целительницы", они почему-то стали писать научную монографию...»

# Справазача

## аб дзейнасці Наваполацкай гарадской арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны за 2006-2007 гады

На 27 снежня 2007г. Наваполацкая гарадская арганізацыя ТБМ складаецца з 6 суполак і налічвае колькасць сяброў-63.

Праведзена:

Сябры ТБМ і літаратурнага аб'яднання "Крылы" Феакціст Фядотаў, Вячаслаў Атрахімовіч і Юрась Касцюк цягам году рэгулярна прапагандавалі беларускае слова на сустрэчах са школьнікамі.

Да міжнароднага дня роднай мовы надрукаваны артыкул, прысвечаны праблеме моўнага асяроддзя ў гарадской газеце (Алег Рудзёнак, люты 2006 г.).

Сябар ТБМ Уладзя Кунцэвіч штомесяц выдае незалежнае беларускамоўнае выданне "Новы горад".

З ініцыятывы старшыні гарадской арганізацыі спадара Алеся Рымшы праводзіўся збор ахвяраванняў на дзейнасць ТБМ. Сабрана 100000 рублёў (чэрвень 2006 г.) 115000 рублёў (люты 2007 г.) і 123000 рублёў (ліпень 2007 г.).

Сябра ТБМ спадарыня Ірэна Жарнасек рэгулярна друкуе цікавыя матэр'ялы ў беларускамоўных газетах і часопісах каталіцкай канфесіі "Наша вера'" і "Аве Марыя".

Праводзіцца праца па інфармацыі аб выхадзе і распаўсюд кніг выдавецтва "Беларускі кнігазбор" і іншых (сябры ТБМ Мікола Чарткоў і Алесь Рымша).

Сябар ТБМ спадар Андрусь Нікалаеў кіруе моладзевым рыцарскім клубам "Жалезны воўк". Мова зносінаў у клубе - беларуская. Сябры клубу прапагандуюць славутыя старонкі беларускай гісторыі.

Сябра ТБМ спадар Вячаслаў Атрахімовіч выдаў сваю другую кнігу цікавых аўтабіяграфічных апавяданняў "Млечны шлях" у выдавецтве "Беларускі кнігазбор". Прэзентацыя адбылася 22 лістапада 2006 года ў цэнтральнай бібліятэцы Наваполацка.

Сябра ТБМ спадар Алег Рудзёнак супрацоўнічае з этнаграфічным беларускім класам у Наваполацкай СШ №5;

Сябра ТБМ спадарыня Тамара Грудніцкая ачольвае музей навукі і асветы пры Полацкім Дзяржаўным універсітэце. Дакументацыя і службовая перапіска вядзецца па-беларуску.

Сябра ТБМ спадар Рыгор Грудніцкі выдаў падручнік па філасофіі для студэнтаў ВНУ па-беларуску і так сама па-беларуску падрыхтаваў грунтоўную манаграфію, прысвечаную Эмануілу Канту і нямецкай філасофіі.

Сябра ТБМ спадар Вячаслаў Рындзевіч прафінансаваў падпіску 8 школьных бібліятэкаў г. Наваполацка на газету "Наша слова" на 2007 год.

Сябар ТБМ спадар Зміцер Шчэрбік сумесна са спадарыняй Ірэнай Жарнасек прынялі ўдзел у арганізацыі творчых сустрэчаў са спеваком Віктарам Шалкевічам і пісьменнікам-гісторыкам Уладзімірам Арловым.

Сябра ТБМ спадар Юрась Касцюк апублікаваў грунтоўны артыкул у газеце "Народная воля" (2007 год) аб неканструктыўнай пазіцыі РПЦ у дачыненні да беларускай мовы.

Сябра ТБМ спадар Васіль Храмцоў штогод ( з 1989 году) ладзіць архаічнае традыцыйнае святкаванне Купалля, якое збірае шматлікіх ўдзельнікаў з розных куткоў Беларусі і замежжа. Пра святкаванне знята два аматарскія фільмы, дзе паказаны архаічны паганскі абрад свята.

Сябра ТБМ спадар Аляксей Кавалёў узначальвае моладзевы клуб "Княжыч", які прапагандуе беларускія народныя спевы ў традыцыйным выкананні, а таксама арганізуюць у вёсках Полацкага раёна і Віцебшчыны разнастайныя беларускія святы (жаніцьба Цярэшкі, Каляды, гуканне вясны і іншыя).

У лістападзе 2007 года праведзена мерапрыемства па ўшанаванні памяці ахвяраў камуністычнага рэжыму на месцы растрэлаў ля мемарыяльнага крыжа на могілках у вёсцы Бельчыца Полацкага раёну.

***Старшыня Наваполацкай гарадской Рады ТБМ Алесь Рымша.***

# Тэматыка гістарычных семінараў

**30 студзеня.** Уладзімір Арлоў. Прэзентацыя кнігі "Імёны Свабоды". Пачатак у 18.00, Заслаўе.

**31 студзеня.** Уладзімір Содаль. "Захаванне і вывучэнне помнікаў гісторыі і культуры". Пачатак у 18.00, Маладзечна.





# Незалежнасць прарастае беларускасцю




Перад Новым годам у шэрагу лідскіх аўтобусаў пачуліся мілагучныя, выразныя абвесткі на беларускай мове, а неўзабаве ў новых аўтобусах, абсталяваных сістэмай "Бягучы радок" абвесткі на беларускай мове пачалі высвечвацца і на візуальным табло.

Намеснік дырэктара лідскага аўтапарка Мечыслаў Раманавіч Галецкі патлумачыў карэспандэнту "Нашага слова", што абвесткі прыпынкаў на беларускай мове павінны б гучаць ва ўсіх маршрутных аўтобусах г. Ліды, але пакуль што гэта немагчыма, таму што ў старых аўтобусах новае абсталяванне не падтрымліваецца канструктыўна.

Аднак з месяца ў месяц колькасць новых аўтобусаў у горадзе павялічваецца. Новыя аўтобусы ўжо ходзяць па маршрутах 7, 9, 12. У першую чаргу гэта аўтобусы вытворчасці Менскага аўтазавода, такія, як у Менску ходзяць па маршруце № 100. На гэтых аўтобусах і ўсе знешнія табло нясуць электронную інфармацыю на беларускай мове. Пры гэтым электронны алфавіт падтрымлівае беларускія "і" і "ў".

Запіс аўдыёінфармацыі на цудоўнай беларускай мове зроблены ў Лідскім тэлерадыёаб'яднанні.

Такім чынам з Лідай усё проста: хочам беларускіх абвестак - трэба дабівацца абнаўлення аўтобуснага парку.

***Вольга Цяслюк.***



*"Бягучы радок" паведамляе: "Канцавы прыпынак."*

# 90 гадоў з дня нараджэння Івана Новікава



**НОВІКАЎ** Іван Рыгоравіч (н. 26.1.1918, в. Нязнань Клімавіцкага р-на), беларускі сав. пісьменнік, журналіст. Засл. дз. культ. БССР (1967). Чл. КПСС з 1939. Скончыў БДУ (1955). Удзельнік Айч. вайны. Працаваў у газ. «Камуна» (Клімавічы, 1935-38), «Советская Белоруссия» (1946-57). З 1957 у газ. «Правда» (з 1965 заг. карэспандэнцкага пункта газеты па БССР). Друкуецца з 1948, пачаў з дакумент. нарысаў, у т. л. «Дзесяць тыдняў у Злучаных Штатах Амерыкі» (1958), «Палескае золата» (1959) і інш. Услаўленне мужнай барацьбы падпольшчыкаў і партызан у Айч. вайну складае пафас нарыса «Вера Харужая» (1962), дакумент. аповесцей «Руіны страляюць ва ўпор» (1962) і «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» (1964, Літ. прэмія Я. Коласа 1965), «Тварам да небяспекі» (1967, Дзярж. прэмія БССР імя П. М. Лепяшынскага 1968), «Да світання блізка» (1974), гіст. нарыса «Бяссмерце Мінска» (1977). Аўтар зборніка фельетонаў «Уласны іншаземец» (1960), сцэнарыя тэлефільма «Руіны страляюць...» (з І. Чыгрынавым, 1973, Дзярж. прэмія БССР 1974). Ганаровы грамадзянін г. Слівен (НРБ).

# *АДКУЛЬ НАШЫ КАРАНІ?*

Шмат гарадоў на Беларусі з ратнай і працоўнай гісторыяй, людзьмі, што тварылі гэту гісторыю. Мсціслаў, як горад Смаленскага княства ў грамаце князя Расціслава Мсціславіча упамінаецца ў 1135 годзе, а ў 1156 годзе яго, як умацаванае месца, упамінае Іпацьеўскі летапіс. Горад фармаваўся ў сівую даўніну на Смаленскім ўзвышшы, навокал Замкавай, Троіцкай і Дзявочай гор. Знаходзячыся на памежжы Вялікага Княства Літоўскага і Масковіі ён сербануў ліха спаўна. За трынадцаць гадоў (1654-1667), што цягнулася вайна між Масковіяй і Рэччу Паспалітай амаль 70 % жыхароў была вынішчана. Аправіцца ад разгрому ён так і не здолеў. Замак і многія храмы засталіся ляжаць ў руінах, Ранейшага багацця і бляску ён ужо не дасягнуў. Тым больш што войны не абмінулі яго і пасля. Нягледзячы на гэта ён рос, расло і яго насельніцтва.

Ёсць у памяці народнай некалькі прыказак, якія добра характэрызуюць сутнасць душы і характару карэнных мсціслаўцаў. Адна, адзначаючы гордае свабодалюбіўства і непакорнасць нашых продкаў перад рознага тыпу захопнікамі, гаварыла: «Мсціслаў не аднаго ворага сціснуў!». Як ні білі нас злыдні - прыхадні, ды не маглі усіх знішчыць. Таму і засталася за намі мянушка: «мсціслаўцы - недасекі». А яшчэ адна прыказка характарызуе ініцыятыўнасць, рухомасць, цягу да падарожжаў, з якіх не ўсе вярталіся ў дом: «мсціслаўцы не паміраюць на сваёй лаўцы», - так калісь казалі пра нашых землякоў.

За сваю гісторыю мсціслўцы, людзі з ганаровым мінулым, славе і мужнасці, розуму і таленту якіх могуць пазайдросціць вельмі і вельмі многія перажылі узлёты і заняпады. Мсціслаўцы па праву ганарацца вычынамі, што былі здейснены іх землякамі: Героямі Савецкага Саюза Піліпам Мікітавічам Рудкіным, Іванам Міхайлавічам Паўловічам, Іванам Кірылавічам Вальваценкам, Яўгенам Іванавічам Качанавым, Уладзімірам Раманавічам Жыгуновым, Якавам Ігнатавічам Ганчаровым, кавалерам ордэна Славы трох ступеняў Міхеем Мітрафанавічам Мінчанкам.

Каб слава нашых землякоў не прапала ў будучых вяках, каб заўсёды быць высокай годнасці тых, хто ніколі не плёўся ў хвасце, хто быў, ёсць і будзе прыкладам нашым нашчадкам і вырашылі 30 гадоў таму мсціслаўцы, што жывуць у сталіцы Беларусі, раз у год, пасля Каляд збірацца разам і ў гурце сваіх землякоў успамінаць аб сваім родным горадзе, аб людзях, якія ўсім помняцца, аб сваім незабыўным юнацтве і дзяцінстве.

Кожны год за святочным сталом не бывае канца размовам, гучаць вершы і песені, прысвечаныя Мсціслаўшчыне. Кожны расказвае пра сябе, успамінае нешта памятнае і дарагое аб родным горадзе, сябрах, дарагіх настаўніках і школе, аб незабыўным юнацтве.

Не выключэнне і гэты год, які прайшоў пад дэвізам: *"Без свайго карэння дрэва-проста бервяно"*. На сусрэчу с землякамі, якая адбылася 10 студзеня, прыйшлі ветэраны сустрэч -рабочыя і службоўцы, большасць з якіх настаўнікі і дактары. Сярод іх былі і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі - журналісты, пісьменнікі, вучоныя. Праявіў зацікаўленнасць і прыехаў з Мсціслава дэкан мсціслаўскі ксёнз Караль Тамэцкі. Усяго прысутнічала 35 чалавек. І як заўжды, да гэтага цікавага мерапрыемства далучыліся навічкі (Віктар Сазоненка, Уладзімір Разцоў, Леанід Голубеў, Андрэй Маслякоў, Вольга Воўкава, Лена Талпыга і інш.) з цікавымі гісторыямі свайго жыцця, новымі поглядамі і ідэямі. Даведаліся пра сустрэчы землякоў студэнты-мсціслаўцы, але зімовая сесія не дазволіла ўсім прыйсці. Прысутнічала толькі Лена Талпыга.

Юля Галіноўская, кардынатар праектаў грамадскага аб'яднання "Цэнтр сацыяльных іннавацый" і Лена Талпыга зрабілі вельмі добрую прэзентацыю пра мсціслаўскі фэст сярдневекавой культуры, што адбыўся 17-19 жніўня 2007 г. ў Мсціславе. Яны падзяліліся цікавымі думкамі пра праграму развіцця малых гарадоў Беларусі, пра будачае Мсціслаўшчыны.

***Мікола Суслаў.***

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 3

| Па гарызанталі: | | Па вертыкалі: | |
|---|---|---|---|
| 3.Пралог | 21.Карповіч | 1.Гарун | 16.Навінка |
| 6.Управа | 23.Скрабін | 2.Сабор | 17.Кавалік |
| 8.Адвакат | 25."Сялянка" | 3.Пракат | 18.Агнішча |
| 9.Татур | 26.Кавалак | 4.Галубок | 22."Паўлінка" |
| 10."Сокал" | 29.Мясніцкая | 5.Паўловіч | 23.Склянка |
| 11.Вучылішча | 31.Янчук | 6.Утачкін | 24.Навалач |
| 14.Тэлефон | 32.Такса | 7.Аматар | 25.Сфінкс |
| 17.Кінавар | 33.Клікуша | 12.Семдзесят | 27.Карскі |
| 19.Капітан | 34.Снітка | 13.Падгорная | 28.Мусін |
| 20.Грузавік | 35.Чапскі | 15."Энергія" | 30.Максі |



№ 4 (843) 23 СТУДЗЕНЯ 2008 г. наша слова

# Косаўскі палац Беларусь страціць не можа



Калісьці магутнасць гарадоў вызначалася таўшчыней замкавых сцен, таямнічасцю цэркваў і касцёлаў, багаццем і раскошам палацаў. Сёння існаванне на карце населенага пункта гісторыка-архітэктурных помнікаў сведчыць аб слаўным мінулым горада і гарантуе дадзенай мясцовасці прыток турыстаў. Шмат якія гістарычна цікавыя мясціны знаходзяцца не на буйных шляхах, а крыху збоку. Гэта Мір, Нясвіж, Гальшаны, Ліда, Крэва, Навагрудак, Косава... Быццам хочуць схавацца ад надакучлівых турыстаў. Менавіта архітэктуры Косава, самага маленькага горада Беларусі, прысвечаны гэты артыкул.

Косава – даволі старажытнае месца. Жыхары горада вельмі пяшчотна адносяцца да сваей роднай мясцовасці. Практычна кожны жыхар можа расказаць аб гісторыі гэтых месц. Адзін з самых папулярных людзей – былы дырэктар мясцовай школы Якаў Янчанка. Яго намаганнямі быў створаны музей і сабраны багаты матэрыял па гісторыі Косава. Косаўцам сапраўды ёсць, чым ганарыцца.

Ян Завіша падчас раскопак знайшоў гарадзішча жалезнага веку. Рэшткі вогнішчаў і фрагменты ляпніны яскарава сведчаць, што людзі тут жылі яшчэ ў IV ст. н. э. Косава славіцца палацам Пуслоўскіх – адзіны помнік, які захаваўся, створаны вядомымі архітэктарамі Францішкам Яшчалдам і Уладзіслвам Марконі. Гэта адзін з першых на Беларусі ўзораў псеўдагатычнага стылю. У фальварку Мерачоўшчына нарадзіўся ваенны дзеяч Польшчы і Беларусі, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі Тадэўш Касцюшка. Метрыка Касцюшкі захоўваецца ў Троіцкім касцёле неараманскага стылю. Сапраўды, у Косава ёсць што паглядзець.

У свой час мястэчкам валодалі Храптовічы, Сапегі, Сангушкі, Пуслоўскія. Не так далёка тыя часы, калі Косава было раённым і павятовым цэнтрам, у ім ладзіліся кірмашы, парады, прымеркаваныя да ўрачыстых дат. Зрэшты, Косава памятае правадыра паўстання 1794 г. Тадэвуша Банавентуру Касцюшку.

Галоўная славутасць горада – палац, які быў закладзены Вандалінам Пуслоўскім. Пуслоўскія былі вельмі заможнымі гаспадарамі. Мелі шмат кароў, коней, багатых палеў і лясоў, якія даходзілі ажно да Рэчыцы. У Альберціне (частка сучаснага Слоніма) валодалі суконнай фабрыкай, дзе запусцілі першую на Беларусі гідраэлектрастанцыю; на суконнай мануфактуры ў Косава – паравую машыну і чатыры паравыя млыны. У госці да прамыслоўцы Пуслоўскага, які атрымаў тытул графа рымскага, прыязджалі Напалеон Орда, Генрык Сянкевіч, Эліза Ажэшка і інш.

У 1838 г. ваявода Казімір Пуслоўскі разам з сынам распачалі будаўніцтва палаца за паўтары вярсты ад мястэчка. Праект мураванага неагатычнага волата быў створаны варшаўскім дойлідам Францішкам Яшчолдам (1808-1873), сынам Войцеха, вядомага архітэктара, мастака-дэкаратара і скульптара, які працаваў у Чартарыйскіх і Замойскіх. Завяршыў будаўніцтва срэбны медаліст Пецярбургскай акадэміі мастацтваў італьянец В. Марконі – ён удала ўпісаў палац у прыгожы парк на схіле пагоркаў у выглядзе трох тэрас, з якіх адкрываліся маляўнічыя краявіды з лесам і сістэмай вадаёмаў.

Унікальны палацава-паркавы ансамбль сфармаваў прыгожы тэрасны парк. Стварэнне Косаўскага парка разглядалася як вартанне да італьянскага барока. Плошча парка каля 40 га, планіроўка змешаная: рэгулярная частка, якая бала закладзена ў першай трэці 18 ст., спалучаецца з пейзажнай, якая адносіцца да канца 18 ст. Тэрасіраванне як спосаб апрацоўкі рэльефаў, які прыйшоў у Польшчу з Італіі, дазваляла найбольш поўна раскрыць кампазіцыю парка. Часцей за ўсе на некалькіх узроўнях афармляліся ў выглядзе нешырокіх стужак рачныя тэрасы рознай ступені крывізны. Тэрасы былі замацаваны дыванам газона, які працягвае моцна трымаць іх форму. Спускі, размешчаныя на галоўнай восі, былі аформлены лесвіцамі. Упрыгожвалі тэрасы скульптура і два фантаны з вялікімі чашамі. Спуск апошняй тэрасы завяршаўся брамкай з пілонамі, праз якую ажыццяўлялася сувязь з ніжнім паркам, галоўным кампазіцыйным элементам якога была водная сістэма з трох вадаёмаў.

Справа ад палаца знаходзілася двухпавярховая аранжарэя "Павільён руж" у стылі класіцызму, у архітэктуры якой выкарыстаны матывы вядомай віллы-ратонды буйнейшага італьянскага архітэктара эпохі Адраджэння Андрэа Паладзіо. Вакол асновы сферычнага купала размяшчаўся шырокі ляпны фрыз з выявай танцуючых дзяўчат. У 1863 г. гэты элемент дэкору быў зняты, так як не супадаў з іконамі, якія былі прывезены з зыкрытага касцела ў в. Альшэва. У глыбіні парка знаходзіўся ветраны млын. Мураваныя вароты, якія афармлялі ўезд у сядзібу, пабудаваны ў стылі неаготыкі. У цэнтры быў праезд у выглядзе шырокай спічастатай аркі, якая раней мела пад'ёмны мост. Вароты завяршаліся зубчатым атыкам. Сцены ўпрыгожаны рэльефнымі паясамі, гіркамі, крыжамі, гербамі, зубчатым парапетам і аркатурай. Гэтыя вароты мелі шмат агульнага з Хлебнымі варотамі падмаскоўнай сядзібы Царыцына.

Уезд у сядзібу ішоў з боку Ружанскага тракта і абазначаўся брамай, якая называлася галоўнай. Праз паўночную браму можна трапіць на гаспадарчы двор. З другога, правага боку (з боку Косава) размяшчалася трэцяя брама – паляўнічая. Уязная алея з ліп рассякала пейзажны парк прыкладна на дзве роўныя часткі. У парку было, па словах мясцовых жыхароў, каля 150 найменаванняў дрэў і раслін. Уязная брама выводзіла да вялікага парараднага партэра перад палацам дарожкамі, якія адыходзілі ад кола, падзеленага на чатыры сектара. Па баках партэр акалялі групы бэза звычайнага, складзеныя раслінамі розных колераў, каларытнасць цвіцення якіх яшчэ ўзгадваюць мясцовыя жыхары. Былы парк, вырублены ў гады вайны, занялі лясныя культуры.

Велічнасць палаца падкрэслівала жывапісная водная сістэма і пейзажны паркавы ландшафт. У паўночна-усходняй частцы палацава-паркавага комплексу, на рэчцы Косаўцы, мелася водная сістэма з двух вадаёмаў, раздзеленых дамбай і абсаджаных белымі ніцай вярбой, з вялікім востравам круглай формы. Вадаёмы часткова захавалі высокія, добра задзернаваныя берагі, якія вясной напоўнены вадой, але ўжо мялеюць і зарастаюць. Уздоўж берагоў і вадаёмаў склаўся пояс трыснягу. Роўнядзь вады закрываюць чаромха і вярба ломкая, якія разрасліся па берагах.

Дамінантнае палажэнне ў ансамблі займаў палац. Варшаўскі атхітэктар Францішак Яшчалд у архітактуры манументальнага будынка спыняе "вялікі пост" палацава-сядзібнага класіцызму і "гурманствуе" гатычнай старажытнасцю. Шэраг даследчыкаў падкрэслівае яго аналогію з замкам Гогенцолернаў у Камянцы-Зембавецкім (польская Сілезія).

З палацам звязяна шмат легенд, сярод якіх найбольш захапляльная аб падземным ходзе да палаца Сапег у Ружанах. Расказваюць таксама, што жонка Пуслоўскага вельмі любіла катанне на санках, пагэтаму граф спецаяльна для яе ладзіў "летняе катанне" – тэрасы парка пакрываліся белымі палотнамі і шчодра пасыпаліся соллю, па якой ездзілі на санках. Гавораць і пра вялізны залаты гадзіннік, які быў у палацы.

На думку С. Ярашэўскага, рэзідэнцыя па кампазіцыі і прыгажосці не мела сабе роўных у Польшчы. Велічны палац заняў плоскую вяршыню высокага ўзгорка. Звяртанне да гістарычнага мінулага, выражанасць дальніх перспектыў з яўляліся праяўленнем матываў рамантызма, якія праяўляліся ў ансамблі.

Гісторык У. Чантурыя ахарактарызаваў палац як твор дойлідства "у духу гатычнай старажытнасці", і гэта відавочна. Аб'ёмна прасторавая архітэктурная кампазіцыя з пульсуючым сілуэтам яшчэ захоўвае строга класіцыстычную сіметрыю, уласцівую адышоўшаму класіцызму – франтальна выцягнуты будынак з высокімі спічастымі аркамі, складзены з цэнтральнага двухпавярховага корпуса і злучаных з ім галерэямі, высунутых наперад бакавых павільёнаў. Цэнтральная частка акцэнтавана прыступкавым атыкам. Куты цэнральнага корпуса фланкіраваны гранёнымі (квадратнымі з усечанымі вугламі) вежамі рознай вышыні; вуглы бакавых аб'ёмаў – контрфорсамі, падобнымі на вежы. Больш нізкімі вежамі былі адзначаны ўваходы. Акрамя таго, вежы маюць зубчатае завяршэнне; аконныя і дзвярныя праёмы спічастага акрэслення, нагадваюць байніцы; вялізныя гатычныя праёмы у сценах галярэй; машыкулі і шэраг іншых дэталяў у стылі гатычнага сярэднявечча. Кожная з дванаццаці вежаў палаца сімвалізуе месяц года. Найбольш ураджайныя – май, чэрвень, ліпень і жнівень – увасобіліся ў цэнтральных вежах замка.

Палац быў пабудаваны так, што сонейка кожны год па два з паловай дні асвятляла адзін пакой, а сістэма ўнутраных праходаў і акон давала промням магчымасць трапляць у кожны куток палаца. Існуе паданне, што ў "дзень пакоя" яго прыбіралі, упрыгожвалі і цешыліся сонечнаму дню менавіта ў ім.

Звестак аб інтэр'ерах палацавых памяшканняў вельмі мала, а іх было, па адным звесткам , больш за сто, па другім – больш за шэсцьдзесят. Кожныя зала мела індывідуальна аформлены інтэр'ер, свой колер, якім вызначалася назва (белая зала, чорная, срэбная і інш.). У чорнай зале гралі ў карты, белая, абкладзеная кафляй, – гасцёўня, ружовы пакой і блакітны – для падрыхтоўкі адпаведна жанчын і мужчын, была нават зала са шкляной падлогай, пад якой у вялізным акварыўме плавалі рыбы. Сцены завешваліся дарагімі дыванамі і габеленамі, у кожнай зале – камін, аздоблены разным мармурам і скульптурамі. У палацы захоўваліся буйнейшыя калекцыі твораў мастацтва і старажытнасцяў, якія належалі графу Пуслоўскаму. Бібліятэка складала некалькі тысяч тамоў. У Параднай зале, што месцілася на другім паверсе, – фрэскавыя роспісы вядомага мастака Францішка Жмуркі. На першым паверсе месціўся звярынец, галоўнай жывелай якога быў леў.

Амаль у кожным пакоі былі каміны, але яны выконвалі толькі дэкаратыўную ролю, так як у палацы было сапраўднае паравое ацяпленне. Вялізныя рэзервуары з гарачай вадой стаялі ў падвальным памяшканні. Вада па трубах паступала ва ўсе пакоі палаца. Тут захоўвалі правіянт, была турма.

З заходняга боку да тэрас прымыкаў службовы двор, які ўключаў кухню, бровар і стайню. Яго сувязь з прылягаючымі палеткамі ажыццяўлялася праз заходнюю браму. Прастору паміж вінакурняй і вадаёмам займаў фруктовы сад, спланаваны ў выглядзе сеткі прамавугольнікаў з аранжарэяй і домам садоўніка.

Пуслоўскія часта запрашалі да сябе адукаваных людзей з усяго былога ВКЛ. Але "залатыя часы" палаца скончыліся неўзабаве пасля паўстання 1863-1864 гг., калі палац адабралі ў Пуслоўскіх і аддалі рускім панам, якія не мелі сродкаў утрымаць такое багацце і ўвесь час прадавалі яго адзін аднаму. Пры паляках у палацы месціліся адміністрацыйныя ўстановы. Часам сюды вадзілі на экскурсіі школьнікаў і ладзілі танцы. Пры саветах у палацы расквартараваліся вайсковыя аддзелы. Пры немцах, як кажуць, тут нічога не было: захопнікам было не да палаца. У горадзе жыло больш за пяць тысяч габрэяў, у лесе хаваліся партызаны. Нехта з партызанаў і падпаліў палац. Так скончылася жыццё палаца, але яго магутныя сцены стаялі і ўражвалі сваёй велічнасцю.

У сярэдзіне 70-х XX ст. адбылася няўдалая спроба рэстаўрацыі, пасля якой пачалося імклівае разбурэнне палаца. Былі раскапаны падвалы, з-за чаго ў будынак пачалі пранікаць грунтовыя воды. Пачаў крышыцца цэмент. Тады ж рухнулі апошнія перакрыцці. Дажджы вымывалі падмуркі.

Вось з такімі вынікамі сутыкнуліся ў 1989 г., калі ўпершыню пачаліся даследванні і абмеры палаца Пуслоўскіх з мэтай яго рэстаўрацыі і прыстасавання пад міжгаспадарчы культурны цэнтр.



№ 4 (843) 23 СТУДЗЕНЯ 2008 г. наша слова

# 420 гадоў трэцяму

## СТАТУТУ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

***Да юбілеяў Льва Сапегі і Статута ВКЛ Валеры Грыцук і Уладзімір Хільмановіч выдалі мастацкую картку з пазнавальным тэкстам на адвароце.***




*"... Леў Сапега не проста адрэдагаваў, а дапоўніў артыкуламі* ***Статут Вялікага Княства Літоўскага****. І напісаў выдатную прадмову:* ***"Мы такі маем скарб у руках, які за аніякія грошы не купіш. Кожны прыстойны чалавек павінен яго ведаць, каб сам сябе стрымліваў, нікога не крыўдзіў, дзейнічаў згодна пісанага права. А калі хтосьці яго пакрыўдзіць, дык ведаў, дзе шукаць абарону і лекі ад крыўды..."*** Ёсць у Статуце 1588 года і асобны запіс пра нашу Беларускую мову, якая тады называлася рускай . *"А* ***пісар земскі павінен па-руску літарамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпіскі і позвы пісаць, а не іншай мовай і словамі*"**.

*Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года - цудоўны помнік чалавечай думцы, спрадвечнаму людскому імкненню зрабіць свет больш дасканалым і справядлівым.* ***Леў Сапега рабіў усё магчымае дзеля выратавання Бацькаўшчыны."*** *(Пададзена частка тэкту. Рэд.)*

*Алесь Яжэвіч*

# МАЯ ВЯЛІКАЯ ЛІТВА

*З нагоды 420-годдзя Статута ВКЛ, тэкст якога быў зацверджаны прывілеем караля Жыгімонта III Вазы 28.01.1588 г.*

1. У нетрах сытых непралазных пушчаў,
На абрусах-лугах з духмяных кветак
Зубры бурылі, нагуляўшы тлушчу,
Буслы лятаць сваіх вучылі дзетак.
Была калыска ў лоне той зямлі.
З яе пайшоў наш род светлагаловы.
Мы самастойна промысел вялі.
Хадзілі і з літоўцамі на ловы.

2. Пракламаваў мангольскі ваяўнік,
Што ў Адрыятыцы абмые боты.
Прайшоў мядзведзя рускага пчальнік,
Агнём яго пусціў і выеў соты.
Паў стольны Кіеў - ліха чорт прынёс.
Паганцы-балты пад "Крыжом" стагналі.
Свой гістарычны павярнуўшы лёс,
Мы, русічы, Літвой Вялікай сталі.

3. Кангламерат плямён, саюз эліт
Далёка ў свеце Мовай адазваўся.
Убачыў вораг меч, а сябар - шчыт.
Вялікі князь кароны дакранаўся?
Прэч з Кіеўскай Русі скакаў баскак,
Якому мора чорнай явай стала.
Нас пяць стагодцзяў абмінаў крыжак.
Кап'ё ліцьвіна пад Крамлём стаяла.

4. Хто меўся Русь Літоўскую вучыць,
З кім сябраваць, якім Багам маліцца -
Шчаслівым тым, хто ўсё ж застаўся жыць,
Свабода доўга будзе толькі сніцца.
Узняўшы меч, князь выкрыкне: "Рубон!"
І панясе героя конь падкуты
Таптаць агрэсараў і наўздагон
З шаломаў іх выкрэсіваць салюты.

5. Нас паважалі за вайсковы гарт.
Храністы сведчаць пра трыюмфы нашай сталі.
Малайцаватасць, рыцарскі азарт
Літву Вялікую заўсёды вызначалі.
І ў мірны час ва ўгоду Перуну
Літаўры білі, падалі букеты.
За гонар, веру, і яе адну
Вялі двубоі рыцары-паэты.

6. У век бліскучых вех і першынства,
Век залаты, здзяйсненнямі славуты,
Цывілізацыі Вялікая Літва
На стол паклала адмысловыя Статуты.
Мы склалі кодэкс грамадзянскіх праў,
На Захадзе складалі гараскопы,
Статутамі сойм ВКЛ заклаў
Падмурак дэмакратыі Еўропы.

7. Энтузіяст, спраў кніжных валадар,
Наш продак быў асветнікам з прызвання.
Бы дзверы ў храм навук, першадрукар
Раскрыў мастацтва кнігадрукавання.
Яго натхніў стваральны рэнесанс
Металам узмацніць "аз-букі-ведзі".
За межы пакаціўся рэзананс,
Мы ганарымся. Б'юць чалом суседзі.

8. Каб больш у нас ані кароль, ні цар
Адзінаверцаў не абаранялі,
Юдолю іх шпурнуўшы на алтар,
Мы унію царкоўную прынялі.
Тады, як ачышчальныя кастры
З ерэтыкоў рабілі артадоксаў
На нашым уніяцкім цвінтары
Пазбеглі рэлігійных парадоксаў.

9. У Княстве насамрэч было грахом
Багацтва вызнаваць за святатацтва.
У дойліцтве, асветніцтве - кругом
Магнацтва праяўляла мецэнацтва.
Каштоўным камнем зіхацеў магнат.
Ды з перлаў тых не сталіся каралі,
Бо кожны ззяў на свой манер і лад.
І вось фінал - апосталы прапалі.

10. Гучыць набат, што ў нас распад, закат...
Тут ні пры чым саюзы з панскай Польшчай,
І сённяшні славянскі ўсходні брат,
Які вучыўся ваяваць пад Оршай.
Мы пэўны час, як наш агмень пагас,
Чужых дзяржаў прымервалі мундзіры...
Але ж нам не забыць - жывілі нас
Свае закон, культура і куміры!

# Успаміны Эдварда Вайніловіча

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**29 ліпеня 1919 г.** Наведалі мяне дзве панны Ёдкі, якія падчас бальшавіцкага нашэсця знаходзіліся ў Нясвіжы. Пакінулі яго ў сялянскай адзежы, з кошыкамі, як быццам ішлі ў грыбы ў лес, прабраліся праз фронт і дабраліся да Варшавы; прынеслі яны мне першыя весткі, што сястра мая Харват жывая і знаходзіцца ў Нясвіжы.

**3 жніўня 1919 г.** Звычайнае штотыднёвае паседжанне Саюза, як заўсёды я ўзначальваю прэзідыюм. З Слуцка дзве панны Крупскія здолелі палескімі ваколіцамі перайсці фронт і дабрацца да Варшавы. Распавядалі аб прыгодах падчас свайго вандравання.

**5 жніўня 1919 г.** Паседжанне "Польска-беларускага саюза" на Шпітальнай 1, статут папярэдне ўжо быў прыняты і прэзідыюм вылучаны. Нягледзячы на моцны ціск, я адмовіўся ад старшынства, быў вылучаны заслужаны дзеяч Мірaслаў Аб'язерскі, а віцэ-старшынём - Лявон Дубяйкоўскі. Дэбаты над лозунгам, з якім павінен выступіць Саюз пры ўступленні польскага войска ў сталіцу Беларусі - Менск; быў прыняты заклік у дабразычлівым духу для легіёнаў. У вельмі радыкальным настроі былі выказаныя дэкларацыі д. Длускага і Мотза, якія вярнуліся з Парыжа, куды яны былі дэлегаваныя Пілсудскім.

**9 аўгуста 1919 г.** Князь Міхал Мірскі з Міра прыйшоў абвясціць мне аб тым, што польскія войскі ўвайшлі ў Слуцк і Менск.

**10 жніўня 1919 г.** Звычайнае паседжанне Саюза: высвятляецца, што Слуцк быў узяты з 5 на 6 жніўня, пры гэтым на рынкавым пляцы загінуў смерцю адважных ротмістр Станіслаў Крушэўскі, якога людзі адразу ж занеслі ў касцёл. Наладзілі годнае пахаванне, у касцёле была прыбітая памятная табліца. Менск быў заняты 8 жніўня. Паседжанне прайшло з невялікім ажыўленнем, таму што кожны быў заклапочаны тым, як дабярэцца дадому, што там знойдзе і як там зладзіцца, асабліва што датычыцца аграрных законаў, ухваленых Соймам.

**13 жніўня 1919 г.** Урачыстае богаслужэнне ў кафедральным саборы з спевам "Te Deum" у прысутнасці амбасадараў і Пілсудскага па выпадку ўзяцця Менска. Шэсце з кафедральнага сабора і ўскладанне вянкоў да помніка Міцкевічу.

**14 жніўня 1919 г.** Даходзяць навіны аб баях, якія яшчэ ідуць паміж Менскам, Барысавам, Койданавам, Шацкам і Слуцкам, з моцнымі бандамі бальшавікоў. Прыехаў наш арганіст з цімкавіцкага касцёла; распавядае, што баі яшчэ працягваюцца пад Слуцкам, Койданавам і Нясвіжам з вялікімі стратамі для краіны, а перад узяццем Нясвіжа польскімі войскамі бальшавікі вывялі з горада шматлікіх закладнікаў, сярод іх і мая любімая сястра Харват, якой ужо больш за 70 гадоў, напалову сляпая і хворая. Закладнікаў павялі ў кірунку Слуцк - Бабруйск. Бог ведае, што з ёй. Цяжкія выты лёсу падаюць на нашу сям'ю.

**16 жніўня 1919 г.** Першыя прамыя навіны з Савічаў, ад шаноўнага Міхася Ярашэвіча, якога бальшавікі пасадзілі кіраўніком у Савічах. Ведаю, што ўсё ў нас знішчана, у Пузаве ні аднаго каня не пакінулі, гэта ў разгар жніва. Галава разломваецца ад думак, што там адбываецца, і як усім распарадзіцца, калі за каня ўжо трэба плаціць 8 - 12 тысяч рублёў.

**17 жніўня 1919 г.** Звычайны штотыднёвы збор нашага Саюза. Даведваюся ад графа Эмерыка Чапскага і Караля Незабытоўскага, што сястра мая Кастравіцкая, вызваленая ў Смаленску, ужо ў Менску, а таксама аб розных падрабязнасцях узяцця Менска. Бальшавікі да апошняй хвіліны здзекаваліся над мясцовым насельніцтвам, якое заганялі ў скляпы і там у яго стралялі, пакідаючы на месцы без пахавання. Горш за ўсё прыходзілася габрэям, а асабліва габрэйкам.

**19 жніўня 1919 г.** Я атрымаў прамую вестку з Менска ад сястры Кастравіцкай; з 10 жніўня яна ўжо на месцы, іншых падрабязнасцяў няма.

**22 жніўня 1919 г.** Клопаты, звязаныя з ад'ездам з Варшавы. Намерваюся ехаць спачатку ў Менск, каб сустрэцца з сястрой, а заадно дазнацца, ці ў цэласці нашыя наяўныя сродкі, якія яна захоўвала. Непераадольныя цяжкасці чыняцца з боку польскіх улад, якія забараняюць прывозіць у Варшаву капітал у расійскіх рублях, таму тое, што ўдалося захаваць ад бальшавікоў, ізноў будзе пад пагрозай страты, і ці прынясе прыбытак польскай дзяржаве тое, што польскі грамадзянін будзе бядней і маёмасць польская застанецца ў руках бальшавікоў.

**23 жніўня 1919 г.** Вячэрні збор у Лядніцкага па справе высвятлення габрэйскага пытання ў Польшчы да высылання з Амерыкі сенатара Маргенці, здаецца, таксама габрэя.

X

**26 жніўня 1919 г.** Ад'езд маёй жонкі з Варшавы праз Ацечу, Нясвіж у Савічы, поўнасцю спустошаныя; заўтра еду ў Менск.

**27 аўгуста 1919 г.** Мой ад'езд у Менск, вандраванне адносна не цяжкае дзякуючы Каралю Незабытоўскаму, які забяспечыў мне месца ў вагоне Чырвонага Крыжа. якім ён распараджаецца.

**28 жніўня 1919 г.** Прыезд у Менск. Вазак замест 1 рубля запатрабаваў за паездку да горада 60 рублёў. Сустрэча з сястрой пасля яе выйсця з турмы. Менск нібы вымер, крамы зачыненыя, на тварах мінакоў не відаць упэўненасці, што ўсё дрэннае ўжо ззаду, а хутчэй асцярога таго, што рыхтуе будучыня. Мясцовыя бальшавікі як быццам прыпалі да зямлі і толькі чакаюць зручнага выпадку, каб уваскрэснуць.

**29 жніўня 1919 г.** Першае паседжанне Рады сельскагаспадарчага Таварыства (былога Аграрнага таварыства) у напалову разбураным доме Таварыства; сустрэча з чальцамі рады, якія падчас кіравання бальшавікоў заставаліся, калі не на месцы ў хатах, то хоць бы ў Менску. Адны, хаваючыся то тут, то там, перапрануўшыся і выдаючы сябе за кагосьці іншага, іншыя - займаючы нават розныя адказныя пасады ў бальшавіцкім кіраванні, што было, з аднаго боку, закладам бяспекі, а з іншага боку, дазваляла рабіць розныя распараджэнні Саветаў меней шкоднымі для сваіх суграмадзян. Нельга сказаць, што тая атмасфера, у якой яны знаходзіліся, цалкам не ўплывала на іх светапогляд.

Дзейнічаючы ў найлепшых падахвочваннях, прынялі вызначаную дэкларацыю па аграрным пытанні, якая дазваляла некаторае ўмяшанне дзяржавы ў справы абшарніцкай уласнасці, права першынства пры куплі і іншыя кампрамісы. Пасля сыходу бальшавікоў замест таго, каб праводзіць прынцып, паводле якога польскі ўрад ліквідуе ўсе распараджэнні бальшавікоў, лічыць іх уладу і распараджэнні бяспраўнымі і ні для кога не абавязковымі, патрабавалі, каб уладальнікі, якія вяртаюцца ў свае сядзібы, выконвалі ўсе дамовы, заключаныя паміж бальшавіцкай уладай і сельскагаспадарчымі працаўнікамі, што толькі магло пераканаць насельніцтва ў магутнай бальшавіцкай сіле. Калі немцы ігнаравалі царскія распараджэнні, палякі - нямецкія, няўжо толькі бальшавіцкія ніхто не меў права парушыць? Гэтая лінія ў далейшым была Сельскагаспадарчым таварыствам асуджаная, і акруговы менскі камісар Рачкевіч адмяніў гэтае распараджэнне.

**3 верасня 1919 г.** Новае паседжанне рады Сельскагаспадарчага Таварыства. Вырашылі склады і крамы сельскагаспадарчага сіндыката здаць у арэнду Каралю Незабытоўскому, дазваляючы весці справы пад назвай "Менскі абшарніцкі сіндыкат". Аповяд сястры Кастравіцкай аб яе поўным самаахвяраванні і ўстойлівасці, паводзінах у смаленскай турме, з якой выйшла за выкуп у 25 000 рублёў. Калі яе ізноў збіраліся арыштаваць у Менску, змушаная была два месяца хавацца ў засценку Слабодка, што недалёка ад Барысаўскага гасцінца.

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Пераможцы конкурсаў “Беларускі настаўнік 2007 года”

Журы Таварыства беларускай школы пад старшынствам Генадзя Бураўкіна, паэта і грамадскага дзеяча, у студзені падвяло вынікі конкурсаў і ўручыла адпаведныя дыпломы і падарункі пераможцам конкурсаў. Падзея адбывалася ў Менскім «Фальварку “Добрыя масьлі”». У ёй прымалі ўдзел пісьменніца Вольга Іпатава, старшыня ТБШ Алесь Лозка і інш.

*Пераможцы-лаўрэаты конкурса “Беларускі настаўнік Менска 2007 года”*

**Бандарэнка** Юры Міхайлавіч, дырэктар Менскай беларускай нацыянальнай гімназіі №4, настаўнік фізікі, выдатнік адукацыі СССР, БССР, РСФСР, аўтар дапаможнікаў для школы.

**Мартысюк** Уладзімір Кірылавіч, настаўнік матэматыкі СШ №168 г. Менска (з рускай мовай навучання), выдатнік адукацыі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь, узнагароджаны медалём Францішка Скарыны.

**Тычына** Міхась Аляксандравіч, доктар філалагічных навук, выкладчык літаратуры зачыненага Гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, загадчык аддзела Інстытута літаратуры Нацыянальнай Акадэміі навук.

*Пераможцы-лаўрэаты конкурса “Беларускі настаўнік 2007 года Меншчыны”*

**Ільініч** Наталля Валянцінаўна, настаўніца гісторыі, ЧГДз, айчыннай і сусветнай мастацкай культуры Талькаўскай СШ Пухавіцкага раёна, краязнавец, аўтар кнігі і аднайменнага сайта “Талька і наваколлі”.

**Дрокіна** Галіна Пятроўна, настаўніца геаграфіі і эканомікі Гімназіі №10 г. Маладзечна, лаўрэат (2-ое месца) Усебеларускага конкурса “Крыштальны жураўель” 2000 г.

**Абрамовіч** Антаніна Анатольеўна, намеснік дырэктара па этнакласах Мётчанскай СШ-сада Барысаўскага раёна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, фальклярыст, кіраўнік узорнага дзіцячага фальклорнага гурта “Берагіня”.

*Дыпламанты конкурса*

**Язвінскі Алесь,** настаўнік фізічнай культуры СШ №3 г. Нясвіжа, краязнавец.

**Барбук** Мікалай Андрэевіч, дырэктар Грабёнкаўскай СШ Чэрвеньскага раёна, настаўнік беларускай мовы і літаратуры.

**Байдак** Таццяна Пятроўна, настаўніца беларускай мовы і літартуры Гімназіі №1 г. Дзяржынска.

**Балоцька** Алена Казіміраўна, выкладчык беларускай мовы і літаратуры Салігорскага дзяржаўнага горнахімічнага тэхнікума.

*Журы конкурсу.*



*Пераможцы конкурсу «Беларускі настаўнік года» г. Мінска і Мінскай вобласціі разам з Вольгай Іпатавай, Генадзем Бураўкіным і Алесем Лозкам.*



*Міхась Тычына атрымлівае званне «Беларускі настаўнік года г. Мінска» і дыплом ТБШ за выкладанне ў Беларускім гуманітарным ліцэі імя Я. Коласа.*



*Генадзь Бураўкін уручае дыплом Наталлі Ільініч з в. Талька Пухавіцкага р-на, Наталля – аўтар кнігі і краязнаўчага сайта пра Тальку і наваколлі.*



*Галіна Дрокіна з Маладзечна выкладае эканоміку і геаграфію. Яе на званне «Беларускі настаўнік 2007 года» намінавалі вучні і калегі.*



*Пераможца конкусу Уладзімір Мартысюк, які 15 год выкладае матэматыку па-беларуску ў рускамоўнай школе № 168 г. Мінска, пераканаы, што моўную праблему стварылі чыноўнікі.*



*Антаніна Абрамовіч, намесніца дырэктара па этнакласах Мётчанскай СШ Барысаўскага раёна атрымала званне «Беларускі настаўнік 2007 года» за тое, што яна разам з вучнямі прапагандуе нашую культуру ва ўсёй Еўропе.*

Севастопольське товариство білорусів імені Максима Богдановича “Пагоня”
99002, Україна, м Севастополь, вул. Гвардійська, буд.6, кв 8 тел. (0692) 71-74-46 E-mail pagonya_bartash@ukr.net

Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча “Пагоня”
99002, Украіна, г.Севастопаль, вул. Гвардзейская, д.6, кв.8 тэл. (0692) 71-74-46 E-mail pagonya_bartash@ukr.net

## Дабрыдзень, дарагія сябры!

Маланкай праляцелі дзесяць гадоў з тых часоў, як у ліпені 1997 года я прыехаў на другі з’езд Аб’яднання беларусаў свету “Бацькаўшчына”. Фактычна я не жыў у Беларусі з трохгадовага ўзросту. У 1948 годзе бацька прывёз усю, сям’ю ў Севастопаль, дзе ён служыў. Было некалькі паездак у госці да бабуль у пачатку 50-х г. Памятаю вёскі, сакавітую зялёную траву, якая не колецца ў адрозненне ад крымскай, і таму можна было бегаць па ёй басанож. У 1960 г. я ездзіў да сваякоў у Вільню. Муж маёй цёткі Зіны Іосіф Людвігавіч Пятровіч выкладаў у польскім пед-інстытуце. Вяртаўся я праз Менск, дзе спыняўся ў сваякоў. Я глядзеў тэлевізійную перадачу, у якой распавядалася аб беларускіх нацыяналістах часоў вайны. Чамусьці глыбока захаваліся ў маёй памяці герб - белы вершнік з занесеным мячом і шчытом, на якім незвычайны сіметрычны крыж, а таксама імя - Радаслаў Астроўскі. Да 80-х гадоў я амаль нічога не ведаў аб гісторыі Беларусі, і мае сваякі, якія прыязджалі адпачываць, нічога не распавядалі, акрамя ўспамінаў аб акупацыі, партызанскай вайне. Уся мая радня ў мінулым сяляне, працавітыя, якія служылі і ваявалі ў расійскім войску. Усе дзядулі загінулі.

Не ведаю, чаму я час ад часу маляваў убачанага мною срэбнага вершніка з мячом, а спалучэнне чырвонага з белым былі маімі любімымі колерамі.

Я не раз задумваўся з дзіцячых гадоў, чаму Беларусь не можа быць асобнай дзяржавай. І стала адчуваў некаторую прыніжанасць з-за сваёй нацыянальнасці, якую пісаў у графах, таму што амаль нічога гераічнага пра свой народ я не чуў, а толькі тое, што ён быў ашчасліўлены Расіяй і Савецкім Саюзам.

Таму мне самому здаецца дзіўным, што апошнія дзесяць гадоў майго жыцця былі ў асноўным прысвечаныя беларускаму руху. Гэта не толькі паездкі на з’езды ў Менск, але першым чынам па сапраўднаму праца ў Севастопалі. Першапачаткова не меў ніякіх ілюзій адносна колькаснага ўдзелу беларусаў горада, але тое, што выявілася ў рэчаіснасці, было больш, чым расчараваннем, аі па сутнасці - сорамам. Літаральна некалькі чалавек ва ўвесь голас змаглі заявіць аб абароне Беларусі як вольнай, незалежнай дзяржавы, абароне беларускай мовы, натуральнай інтэграцыі ў Еўропу. І сярод іх ні аднаго “абаронцы Радзімы” (г. зн. вайскоўца), ні аднаго выпускніка-гуманітарыя беларускіх ВНУ, уключаючы філалагічны і гістарычны.

Але тым не менш, рабілася справа, якая прадэманстравала тут, што мы народ свабодалюбны, які валодае годнасцю, і нам неабавязкова прагінацца ў славянскім братэрстве. Не магу не адзначыць дзейнасць намесніка старшыні таварыства Ганны Станіславаўны Малахоўскай-Васюнінай. Гэта фенаменальная памяць, культура беларускай мовы, асабістая годнасць і сціпласць. У 1937 годзе яе бацька Станіслаў Малахоўскі быў расстраляны, неўзабаве памерла маці. Тры малагадовыя сястры засталіся сіротамі. Дзесяць гадоў Ганна Станіславаўна вядзе беларускія перадачы па мясцовым радыё. Яе прынцыповасць і надзейнасць з’яўляюцца прыкладам для іншых.

Наша прынцыповая пазіцыя па Беларусі, вернасць яе гістарычным сімвалам, гербу “Пагоня” і бел-чырвона-беламу сцягу выклікалі нападкі не толькі з боку “саўковых” беларусаў, але і іншых асобаў, а таксама цэлых грамадскіх арганізацый імперска-камуністычнай арыентацыі.

Тым не менш мы нясем беларускі крыж і ўпэўненыя, што наша ідэя пераможа. Мы заўсёды адчуваем локаць пабрацімаў-украінцаў, а таксама Вашу падтрымку. Ваша дзейнасць з’яўляецца прыкладам для нас.

Няма ніякага перабольшання, што народжана таварыства вершамі нашага любімага песняра Максіма Багдановіча, яго “Пагоняй”, і мы заслужылі ганаровую назву таварыства.

Мы годна нясём наш бел-чырвона-белы сцяг з верай у перамогу.

Было б крыўдна і несправядліва, калі б у Севастопалі, у Крыме не было б беларускага таварыства, а дзейнасць яго не была б працятая памяццю Максіма Багдановіча, парэшткі якога пахаваны ў Ялце.

Жадаем усім вам здароўя, поспехаў у вашай высакароднай дзейнасці на карысць нашай Бацькаўшчыны. Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

Жыве Беларусь!

*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча “Пагоня”*
***Валер Барташ.***

№ 4 (843) 23 СТУДЗЕНЯ 2008 г. Наша слова

# Беларускія карані не былі для яго таямніцай

## 70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Высоцкага

Зімным зімовым днём 25 студзеня 1938 года ў Маскве нарадзіўся Ўладзімір Высоцкі. З радзільні на Трэцяй Мяшчанскай вуліцы маці Ніна Максімаўна і дзядзька Аляксей Уладзіміравіч прынеслі будучага паэта, артыста і спевака на Першую Мяшчанскую (цяпер праспект Міру), 126. Гэта быў стары трохпавярховы будынак, які стаяў чуць наўскасяк ад Рыжскага вакзала, дзе да рэвалюцыі размяшчаліся шумныя нумары гасцініцы "Наталіс", пераўтвораныя пасля Кастрычніка ў вялікія камунальныя кватэры. У адной з такіх камуналак доўгія гады жыў Уладзімір Высоцкі.

Ён не мог з'явіцца на свет звычайна. Так, як нараджаліся мільёны іншых, таленавітых і простых людзей. Не мог прыходам у гэты свет не выклікаць спрэчак і рознагалоссяў. Усё пачалося задоўга да яго нараджэння. Якое даць дзіцяці імя? Гэтае пытанне бурна абмяркоўвалі і сяброўкі Ніны Максімаўны, і таварышы яе мужа - Сямёна Ўладзіміравіча, і суседзі. Дзяўчынку вырашылі назваць Алісай, а імя хлопчыка ніяк не маглі выбраць. Звалі па алфавіце: Аляксандр, Андрэй, Аляксей, Барыс, Васіль, Уладзімір..., але да дня яго з'яўлення так ні на чым і не спыніліся. У радзільні Ніна Максімаўна раптам успомніла, што з'язджаючы ў камандзіроўку, Сямён Уладзіміравіч папрасіў:

- Назаві сына Ўладзімірам: у гонар майго бацькі і твайго брата - майго таварыша!... - да таго ж у краіне як раз адзначаліся ленінскія дні, дадаўся яшчэ адна нагода назваць сына Ўладзімірам, што яна і зрабіла.

Але раптам Ніна Максімаўна атрымлівае віншаванне. Маляўнічую паштоўку - кошачку, якая гайдае ў калысцы кацяня, - дзе напісана: *"Мы, суседзі, віншуем вас з нараджэннем новага грамадзяніна СССР і ўсім мірам вырашылі назваць яго Алегам, Алег - правадыр Кіеўскай дзяржавы!"*. Калі Ніна Максімаўна вярнулася дадому з Уладзімірам, многія суседзі, асабліва дзеці, былі вельмі незадаволеныя і нейкі час ніяк яго не звалі. Потым, праўда, абвыклі: Вова, Вовачка, Уладзімір - "уладар міру". Такім чынам, нарадзіўся яшчэ адзін уладар не толькі міру, але і свету, ды як пазней аказалася, завалодаў ён не бязмежнымі абсягамі, а светам людскіх сэрцаў!

У радаводзе Ўладзіміра Высоцкага няма нічога выбітнага, але ўсё ж цікава пазнаць пра яго, таму як лёс чалавека заўсёды звязаны з жыццём родных, а ў характары яго часам праглядаюцца рысы папярэдніх пакаленняў. **Дзед Высоцкага** па бацьку - цёзка па імені, імю па бацьку і прозвішчы - **Уладзімір Сямёнавіч Высоцкі** - быў родам з **Брэст-Літоўска**, з сям'і выкладчыка рускай мовы, які меў таксама і прафесію шкловыдзімальніка. Дзед Высоцкага, па ўспамінах родных, вызначаўся глыбокай інтэлігентнасцю, клапатлівым характарам і цягай да навукі. У яго былі тры вышэйшых адукацыі - юрыдычная, эканамічная і хімічная. Жонка Ўладзіміра Сямёнавіча, **Дар'я Аляксееўна Семяненка**, працавала медсястрой і касметолагам. **Яна вельмі любіла свайго першага ўнука Валодзю і была ў апошнія гады жыцця гарачай прыхільніцай яго песень.**

**Дзед Высоцкага па маці, Максім Іванавіч Сяроґін**, прыехаў у Маскву ва ўзросце 14 гадоў з сяла Агарова Тульскай губерні. Пазней ён пачаў працаваць швейцарам у розных маскоўскіх гасцініцах: у "Марсэлі" на вуглу Пятроўкі і Сталешнікава завулка, у "Новамаскоўскай", у апошнія гады жыцця - у "Фантазіі". У іх з жонкай **Еўдакіяй Андрэеўнай Сінотавай** было пяцёра дзяцей, у тым ліку і Ніна Максімаўна.

Яна нарадзілася ў 1912 годзе. Пасля ранняй смерці бацькоў стала жыць самастойна, займаючыся выхаваннем малодшага брата. Ніна Максімаўна скончыла Маскоўскі камбінат замежных моў, працавала перакладнікам-рэферэнтам нямецкай мовы ў замежным аддзеле ВЦСПС, затым гідам у "Інтурысце". У першыя гады вайны служыла ў бюро транскрыпцыі пры Галоўным кіраванні геадэзіі і картаграфіі МУС СССР. Змяніла некалькі пасад і месцаў працы. Скончыла працоўную дзейнасць начальнікам бюро тэхнічнай дакументацыі ў НДІХімМашы.

Бацька Ўладзіміра Высоцкага, Сямён Уладзіміравіч, нарадзіўся ў 1915 годзе ў Кіеве (ішла вайна). У 30-я гады ён прыехаў у Маскву. У 1936 годзе скончыў Палітэхнікум Сувязі, затым там ж курсы невайсковай падрыхтоўкі і звязаў назаўжды сваё жыццё з войскам. Сямён Уладзіміравіч прайшоў Вялі-кую Айчынную вайну ад пер-шага да апошняга дня. Затым скончыў Вайсковую Акадэмію Сувязі, служыў у розных гарнізонах і пайшоў у адстаўку ў званні палкоўніка.

Ніна Максімаўна пазнаёмілася з Сямёнам Уладзіміравічам у сярэдзіне 30-х гадоў, падчас яго вучобы ў Маскве. Пажаніліся. Нарадзіўся Валодзя. І хоць іх сумесны лёс не склаўся, сустрэчу гэтых двух людзей, якія далі жыццё такому чалавеку, як Уладзімір Высоцкі, нельга назваць нешчаслівай.

Першыя гады жыцця Валодзі прайшлі ў шматкватэрнай камуналцы на Першай Мяшчанскай. Родныя і знаёмыя, успамінаючы, якім ён быў у раннім дзяцінстве, гавораць, што той быў забаўным, вельмі таварыскім дзіцем. Гэта і зразумела: камунальная кватэра для малога - гэта мікракраіна, у якой ты заўсёды свой, дзе, не выходзячы з хаты, можаш пагуляць, пагутарыць з мноствам дарослых і дзяцей, дзе табе заўсёды радыя і могуць дапамагчы.

*"Дзіцячыя ўражанні вельмі моцныя,* - успамінаў пазней у адным з сваіх выступаў Уладзімір Высоцкі. - *Я памятаю з двух гадоў, - неверагодна проста! - усе падзеі. Я памятаю, напрыклад, як... я выпраўляў бацьку на фронт.* (Сямён Уладзіміравіч з'ехаў у вайсковую частку ў сакавіку 1941 года). *Дакладна, проста, да адной секунды. Як мяне прывялі ў цягнік, як я сеў, сказаў: "Вось тут мы і паедзем". Яны гавораць: "Ну, пайдзем на перон, там пагуляем". І раптам гляджу... і ён махае хусткай мне... А назад мяне нёс муж Гісі Майсееўны, дзядзька Яша, на руках, таму што я быў у абсалютнай разгубленасці і маўчаў, пакрыўдзіўшыся, што мяне так абдурылі: я ўжо з бацькам ехаў, і раптам яны мяне ўзялі..."*.



Валодзя і ў раннім дзяцінстве выяўляў настойлівасць у характары. Напрыклад, яму было каля двух гадоў, калі бацька купіў яму клюшку і мячык, Вова ходзіць па пакоі і прыстае да ўсіх дарослым:

- Будзем гуляць у хакей! - прычым прамаўляе гэта дарослым грубаватым голасам, які з дзяцінства быў у яго хрыплаватым.

Яго адсылаюць да дзядзькі Яшы, які спіць на ложку. Валодзя бярэ клюшку, якая, трэба сказаць, была вышэй за яго ў паўтары разы, і ідзе да дзядзькі. Ізноў пачынае сваё манатоннае:

- Дзядзька Яша! Вова хоча гуляць у хакей!..

У адказ ніякай рэакцыі. Але няўвага да малога хакеіста заканчваецца для дзядзькі плачэўна: Валодзя з усяго маху б'е яго клюшкай па вельмі балючым месцы.

- Што ты робіш?! - у лютасці ўскоквае зпрасонку дзядзька Яша.

- Вова хоча гуляць у хакей...

Ніна Максімаўна ў той час захаплялася тэатрам, і дома, у калідоры або на кухні, дзе звычайна здараліся агульныя чаяванні, часта наладжваліся дзіцячыя канцэрты і прадстаўленні. Валодзя з задавальненнем прымаў у іх удзел. Залазіў на табурэтку вышэй, каб яго ўсё бачылі, і чытаў перад прысутнымі на памяць вершы: "Чамучку", "Дзеткі ў клетцы" Маршака, "Мужычок з кіпцік" Някрасава, адкідаў назад валасы, як сапраўдны паэт, і гучна дэкламаваў:

*Кліму Варашылаву*
*ліст я напісаў:*
*"Таварыш Варашылаў,*
*народны камісар,*
*У Чырвонае Войска*
*ў цяперашні год.*
*У Чырвонае Войска*
*брат мой ідзе...*

У Ніны Максімаўны ў куфры заставалася шмат старадаўніх рэчаў ад маці. Часам яна даставала іх і прыбірала сына: у барэт са страўсіным пяром, жаночую сукен-ку. Ён хадзіў па камунальнай кватэры і ўсіх весяліў. Нягледзячы на доўгія светлыя валасы, Валодзя, варта было яму загаварыць, быў мала падобны на дзяўчынку; ды і ў мове яго часта праслізвалі такія вулічныя прымаўкі і прыказкі, што Ніна Максімаўна парой чырванела.

Новы год. Вову два гады. За сталом госці, бацькі. Яны просяць распавесці якінебудзь вершык. Валодзя марудна ідзе да ёлкі, усаджваецца пад яе, цяжка выцягваючы ногі, нібы ён вельмі стаміўся, і прамаўляе з інтанацыяй вазака:

- Дармаеды! Дайце дзіцяці адпачыць!..

Калі Сямён Уладзіміравіч уставаў перад люстэркам, каб пагаліцца, сын, аглядаючы яго хітрым поглядам, гаварыў:

- Паглядзіце, што дзеецца! Наш казёл вырашыў пагаліцца!..

Валодзя ў дзяцінстве, па ўспамінах маці, быў дасціпны, тое, што ён гаварыў, заўсёды выяўляла настрой навакольных. Напрыклад, аднойчы, калі на адзін з хатніх канцэртаў-прадстаўленняў дашлі людзі, якіх не запрашалі і не вельмі чакалі, Уладзімір раптам заспяваў незапланаваную праграмай прыпеўку:

- Самалёт, самалёт, колы сцерліся! Мы не чакалі вас, а вы прыперліся!.. - выказаўшы агульнае меркаванне нерашучых дарослых.

Пачалася вайна. Ніну Максімаўну трывожыў лёс мужа, які знаходзіўся ў войску. Праз некалькі дзён пасля пачатку баявых дзеянняў у Маскве з'явіліся першыя эвакуяваныя. Сярод іх была жонка брата Ніны Максімаўны з двума маленькімі дзецьмі. Яны ехалі ад літоўскай мяжы, дзе пачаліся бамбёжкі, і, калі з'явіліся на Першай Мяшчанскай, былі змучаныя, паўраспранутыя, у ранках і драпінах. Ехаць у Чалябінск, а няма ні ежы, ні адзежы, ні грошай! Але тут выявілі дабрыню жыхары камунальнай кватэры: сабралі сякія-такія рэчы, прадукты, правялі ўцякачоў у дарогу. Маці Ўладзіміра Высоцкага ўспамінала, што сын у дзяцінстве часта раздаваў свае цацкі: ён нібы ўбіраў дабрыню і шчодрасць людзей, якія атачалі яго .

Ніна Максімаўна ў той час пачала працаваць у арганізацыі з дзіўнай назвай "Бюро транскрыпцыі", у якой займаліся складаннем геаграфічных карт для дзейнага войска. Ніна Максімаўна перакладала назвы з нямецкіх карт на рускую мову. Часта яна брала маленькага Валодзю з сабой на працу, дзе ён парой засынаў на велізарных сталах або, калі яму станавілася сумна, паволі ўцякаў у двор і вёў доўгія гутаркі з вахцёрамі.

У Маскве пачаліся налёты фашысткай авіяцыі. Уладзімір не баяўся паветранай трывогі - для яго гэта была гульня. Яму падабалася браць шкляны слоік і палохаць усіх у камунальнай кватэры:

- Грамадзяне! Паветраная трывога!!!

- Сыйдзі, наклічаш!

Калі ўначы раздавалася трывожнае выццё сірэн, схапіўшы посуд з вадой, цёплыя рэчы, усе хаваліся ў сховішча, якое знаходзілася на супрацьлеглым баку вуліцы. Там Валодзя любіў з ўсімі пераэнаёміцца, пагуляць. Калі ён засынаў да адбою, мама будзіла яго, і ён спакойна гаварыў:

- Адбой - пайшлі дадому!..

У сярэдзіне ліпеня ў Маскве пачалася эвакуацыя сем'яў з дзецьмі. Ніна Максімаўна вырашыла ехаць у Казань, але ў апошні момант акалічнасці змяніліся і разам з дзіцячым садам парфумернай фабрыкі "Воля", дзе некаторы час выхоўваўся Валодзя, прыйшлося ехаць на Ўрал. На доўгія два гады Высоцкія апынуліся ў сяле Варанцоўка, недалёка ад горада Бузулук Арэнбургскай вобласці. І хоць Сямён Уладзіміравіч дапамагаў жонцы і сыну афіцэрскім атэстатам, ох, і несалодка ім там жылося! Дзеці і бацькі знаходзіліся асобна. Для малых арганізавалі дзіцячы сад. Ён размяшчаўся ў саманнай пабудове, былым панскім свінарніку, пераабсталяваным у савецкі час у клуб. Там не было ні калідораў, ні пакояў - адна велізарная, па тых порах зала. Яе разгарадзілі шафкамі і пасялілі туды дзяцей. Тут і жыў Валодзя ўвесь час эвакуацыі, стаўшы сапраўды "грамадскім" дзіцем.

Ніна Максімаўна кватаравала ў мясцовых жыхароў, уладкаваўшыся працаваць на спіртавы завод прыёмшчыцай сыравіны, а затым там жа ў лабараторыі. Для гарадскіх жанчын праца ў Варанцоўцы была нялёгкай. Калі на заводзе закончалася паліва, усіх адпраўлялі на лесанарыхтоўкі. Працавалі парой па 12 гадзін, таму Ніна Максімаўна рэдка бачыла сына. Але ўсё ж часам ёй ўдавалася браць яго да сябе, падкормліваць малаком, бульбачкай, гарбузом. Валодзя па словах маці, і тады любіў выдумляць, распавядаць нейкія гісторыі: "Нам у дзіцячы сад доўга было ісці і ўсю дарогу ён фантазіраваў, як забярэцца на Месяц, адтуль убачыць Гітлера, яго зловяць, пасадзяць у клетку і павязуць, каб людзі бачылі...". А парой яго турбавалі вельмі дарослыя пытанні:

- Мама, а што такое шчасце?..

Яна не знайшлася, што адказаць яму, такому маленькаму, але падчас наступнай сустрэчы ён радасна ёй паведаміў:

- Матуля, сёння ў нас было шчасце!

- Якое ж?..

- Манная каша - без камякоў!..

Толькі ўлетку 1943 года Ніна Максімаўна і Валодзя, дзякуючы выклічу Сямёна Ўладзіміравіча, атрымалі магчымасць вярнуцца ў Маскву.

# Беларускія карані не былі для яго таямніцай

## 70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Высоцкага

Перапоўнены цягнік. Двое сутак у дарозе. Адно "сядзячае" месца - Вова на чамаданах у праходзе паміж зэдлямі... І вось, нарэшце, Масква, Казанскі вакзал. Прыпынак. Ніна Максімаўна і Валодзя прымкнулі да вокнаў, і раптам ён гучна, радасна закрычаў:

- Тата! Вунь тата!

І праўда, Сямён Уладзіміравіч стаяў на пероне сярод сустракаўшых. Сын ніколі не бачыў яго ў вайсковай форме, з іх апошняй сустрэчы прайшло больш за два гады, але Ўладзімір адразу пазнаў бацьку. Што гэта - добрая памяць, супадзенне? А можа быць - кліч сэрца?.. Сустрэча была кароткай, і зноў Ніна Максімаўна з сынам засталіся адны на Першай Мяшчанскай.

Новы 1944 год яны сустрэлі разам з Аляксандрай Іванаўнай Высоцкай, жонкай брата Сямёна Ўладзіміравіча. Пасля цяжкага ранення яна далечвалася ў Маскве. Валодзя зваў яе "мая ваенная цётка". Пазней яна ўспамінала: *"Я ўбачыла хлопчыка, які сядзеў на драўляным анікачаллцы . Чубок, спадаўшыя да плеч буйныя валасы. Уразілі вочы: шырока расхінутыя, прамяністыя. І вельмі дапытлівыя"*. Магчыма, яе вобраз - стройнай, у вайсковай форме, якая добра сядзіць, з ордэнам Айчыннай Вайны і з незгладжальнай меткай: на вайне яна страціла руку - назаўжды застаўся ў памяці Высоцкага і адклікнуўся ў песнях аб вайне.

Як мы ўжо распавядалі, Ніна Максімаўна была тэатралкай. Яшчэ ў ваенныя гады яна стала хадзіць з сынам у тэатр, на балет. Вяртаючыся адтуль, Валодзя часта спрабаваў перад люстэркам кагосьці паказваць, скакаў, вытвараў мудрагелістыя піруэты. Пазней на адной з сваіх сустрэч-канцэртаў, успамінаючы аб дзяцінстве, ён распавядзе:

-... *У мяне ў сям'і не было нікога з акцёраў і рэжысёраў, карацей гаворачы, нікога з людзей мастацтва. Але мама мая вельмі любіла тэатр і з самых-самых малых гадоў кожную суботу - гадоў да трынаццаці-чатырнаццаці - вадзіла мяне ў тэатр. І гэта, мусіць, засталося. Відаць, у душы кожнага чалавека застаецца маленькі куток ад дзяцінства, які адчыняецца насустрач мастацтву...*

Скончылася Вялікая Айчынная вайна. Як ужо раней гаварылася, сумеснае жыццё бацькоў Уладзіміра Высоцкага не склалася. Калі Сямён Уладзіміравіч вярнуўся з Нямеччыны ў Маскву, у яго ўжо была другая жонка - Яўгенія Сцяпанаўна Высоцкая (Ліхалатава). Яны пасяліліся ў яе, у Вялікім Карэтным завулку, д.15, кв.4. Валодзя бачыўся з бацькам, але да студзеня 1947 жыў з Нінай Максімаўнай. Яна так распавядала пра гэты цяжкі пасляваенны час:

*"У першым класе 273-й школы настаўніца патрапіла занадта строгая. Аднойчы яна вельмі сурова пакарала Валодзю, ён моўчкі сабраў свае кніжкі і сшыткі і выйшаў з класа. Прыйшоў у іншы першы клас і папрасіў настаўніцу: "Можна я буду вучыцца ў вас, мне там не падабаецца...".*

*Настаўніца дазволіла застацца. З ёй у Валодзі ўсталяваліся сяброўскія адносіны, яна запрашала яго да сабе дадому, частавала гарбатай з цукеркамі... Здаецца, яе звалі Таццянай Мікалаеўнай.*

*У першыя пасляваенныя гады жыць было цяжка. Я тады працавала ў Міністэрстве знешняга гандлю, часта прыходзілася затрымоўвацца на працы. Валодзя пасля школы гаспадарыў дома. Суседскія дзяўчынкі дапамагалі яму пасля школы разаграваць на электрапліце абед, прыгатаваць урокі. Неяк прыходжу з працы, а ён гаворыць: "Матуля, я сёння зарабіў, - мы цягалі бульбу ў склеп, а дырэктар крамы даў нам за гэта па поўным рондалі бульбы. Я табе сюрпрыз прыгатаваў!" І падае дранікі. Чорныя-чорныя: "Я вось толькі масла не знайшоў і папёк іх на вадзіцы". На тарцы нацёр разам з лупінай, і я змушаная была гэта з'есці і пахваліць".*

Уладзімір часта заставаўся без нагляду, таму Ніна Максімаўна з Сямёнам Уладзіміравічам вырашылі, што пакуль ён не скончыць школу, будзе жыць з бацькам і Яўгеніяй Сцяпанаўнай. У студзені 1947 года Сямён Уладзіміравіч быў накіраваны на службу ў нямецкі горад Эберсвальд, куды разам з ім адправіліся сын і Яўгенія Сцяпанаўна. Там ж праходзіў службу дзядзька Валодзі - Аляксей Уладзіміравіч і яго "ваенная цётка" Шура. Зносіны, сяброўства з вайскоўцамі шмат у чым вызначылі першую мару Ўладзіміра аб будучай прафесіі - ён жадаў стаць вайскоўцам.

Сямён Уладзіміравіч так успамінаў аб жыцці ў Нямеччыне:

*"Дома я не бываў парой тыднямі: вучэнні, заняткі ў полі... Так што выхаваннем Валодзі амаль поўнасцю займалася Яўгенія Сцяпанаўна. Яны з першых дзён знайшлі агульную мову, палюбілі адзін аднаго, чаму я быў рады.*

*У чымсьці яна, як маці, і патурала яму. Напрыклад, загарэлася Валодзі мець "гарнітур, як у таты", і каб абавязкова боты хромавыя з тупым наском... Жонка абабегала некалькі атэлье, пакуль знайшла майстра, абутніка. Нарэшце, форма была гатовая. Валодзя ўзяў свае боты, паставіў побач з маімі, параўнаў. І калі ўбачыў, што яны цалкам аднолькавыя, радасці не было мяжы. Ён і фатаграфавацца пайшоў з ахвотай.*

*Але ўжо ў тыя гады ў Валодзі пачаў праяўляцца характар. Яўгенія Сцяпанаўна ўспамінае. як я прынёс з палявання зайца. "Навошта тата гэта зрабіў?" - спытаў сын у яе. Ні я, ні жонка не надалі гэтаму пытанню вялікага значэння. У іншы раз Яўгенія Сцяпанаўна ўцяпліла Валодзі чаравічкі поўсцю забітай на паляванні сарны, насіць ён іх не стаў, устроіўшы сапраўдны бунт: "Цісне... Коле... Пячэ пятку...".*

*Прыйшлося падарыць чаравікі суседскаму хлопчыку.*

*Ці адрозніваўся Валодзя ад іншых дзяцей? Не. Хіба што быў больш няўрымслівы, бясстрашны, а таму, як правіла, быў завадатарам і ў гульнях, і ў свавольствах. Прыходзіў дадому з абадранымі каленкамі, і было зразумела, што гулялі ў вайну. Абпаленыя бровы і копаць на твары паказвалі, што не абыйшлося без выбуху ці то гранаты, ці то патронаў.*

*Плаваць Валодзя навучыўся рана. І рэчку Фінаў, якая была тады не поўнасцю вычышчаная ад мін і снарадаў, пераплываў па некалькі разоў.*

*Мне і жонцы вельмі хацелася навучыць сына гульні на фартэпіяна. Запрасілі настаўніка музыкі. Па яго словах, музычны слых у сына быў абсалютны. Але двор проста-такі вабіў Валодзю. Тады Яўгенія Сцяпанаўна пайшла на хітрасць: сама пачала вучыцца музыцы, выклікала Валодзю як бы на спаборніцтва. І сын пачаў менш сваволіць, пасур'ёзнеў.*

*Ужо ў дзяцінстве ў яго характары выявілася дабрыня. Мы купілі яму ровар. Ён пакатаўся трохі і раптам падарыў яго нямецкаму хлопчыку, растлумачыўшы: "Ты ў мяне жывы, а ў яго няма таты...". Што тут было сказаць...".*

Адбылася непрыемная гісторыя ў Нямеччыне з немкай, у асабняку якой жылі Высоцкія. Неўзабаве пасля прыбыцця туды Валодзя прыбег да Яўгеніі Сцяпанаўны на кухню і паклікаў у хваляванні:

- Пайдзем, я табе нешта пакажу.

- Што такое Вовачка? - спытала яна.

- Мы жывем у фашыста!

- Што ты?!

Валодзя паказаў Яўгеніі Сцяпанаўне фатаграфію над пісьмовым сталом фраў Ані, дзе быў намаляваны гаспадар дома са свастыкай на мундзіры.

З гэтага дня Ўладзімір стаў вельмі дрэнна ставіцца да фраў Ані. І сям'і Высоцкіх прыйшлося пераехаць у іншы дом. І нават калі прайшоў час, Валодзя быў непрымірымы: аднойчы, сустрэўшы фраў Ані з мужам, ён падбег да яго і крыкнуў:

- Вілі, ты - фашыст!

- Валодзя, так нельга. - пачала гаварыць Яўгенія Сцяпанаўна.

Але хлопчыка было цяжка ўтрымаць:

- Так, ён забіваў дзяцей! Ён мог тату забіць. ён мог цябе забіць. Ён усіх дзяцей забіваў, ён - фашыст...

Жывучы ў Эберсвальдзе, Валодзя не забываў аб маці, сваіх маскоўскіх сябрах, знаёмых. Вось некалькі яго лістоў у Маскву:

*"Дарагая матуля! Я жыву вельмі добра. Хаджу ў школу, стараюся вучыцца добра. Тата мне робіць падарункі. У мяне ўжо два новыя гарнітуры, чаравікі і паліто. Заўтра цётка Жэня замовіць мне боты.*

*Напішы Вовін адрас.*

*Цалую, твой Вова".*

*"4 красавіка.*

*Дарагая матуля! Жыву я добра, здаровы. Вучуся добра, двойкі не атрымліваю. У нас ужо цеплыня, у школу хаджу ў летнім паліто. Да 1-га траўня мне замовілі два гарнітура. Прывітанне Папову, Сяўрукову, Веры Якаўлеўне, Шуры і ўсім.*

*Цалую, твой Вова".*

*"19/V-48*

*Дабрыдзень, дарагая матуля! Я жыву добра. Скончыў трэці клас і перайшоў з такімі адзнакамі за год: пісьмо 4, арыфметыка 4, маляванне 3, фізкультура 5, спевы 3, паводзіны 5, старанасць 4. Мама, калі я пайшоў у трэці клас, я сказаў цётцы Жэні, як доўга яшчэ вучыцца. Я дзіўлюся, як хутка прайшоў час. Дваццаць чацвёртага траўня я з'яжджаю на курорт у Бадальф. Мяне прымуць у Суворaўскую вучэльню, калі я здам конкурс лепш за ўсіх.*

*Пішы, чакаю адказу, цалую.*

*Твой сын Вова".*

*"28/X-48*

*Дабрыдзень, дарагая матуля! Я атрымаў твой ліст, ты напісала, што дашлеш кнігу "Маладая гвардыя". Я дастаў гэтую кнігу, так што не дасылай. Я жыву добра, вучуся ў 4-м класе на добра. У мяне такія адзнакі: пісьмо 4, арыфметыка 4, чытанне 4, развіццё мовы 3, гісторыя 5, прыродазнаўства 4, геаграфія 5. Школа ў нас адчынілася 25/VII-48, а я прыехаў 30/VIII-48. Матуля, віншую цябе з святам 30 гадоў ВЛКСМ і 31 гадавінай Кастрычніка. Як жыве дзядзька Жора? Перадавай яму прывітанне. Цалую. Прывітанне Веры Якаўлеўне, Шуры і іншым.*

*Твой сын Вова".*

У кастрычніку 1949 г. Высоцкія вярнуліся ў Маскву. Уладзімір працягнуў сваё навучанне ў новай школе N 186, якая нахадзілася там ж, дзе пасялілася іх сям'я, на Вялікім Карэтным.

Ён з'явіўся ў 5 "Е" класе акуратным і, па тым часе, дорага апранутым: у замшавай рудой куртачцы, новенькіх чаравіках - і яму адразу далі мянушка "амерыканец". Пазней Яўгенія Сцяпанаўна ўспамінала, што Валодзя тады вярнуўся з школы ў слязах і прасіў бацькоў апрануць яго "як усе". Першую крыўдную мянушку "амерыканец" Высоцкі насіў нядоўга. Нягледзячы на знешнасць выдатніка, Уладзімір аказаўся майстрам усялякіх свавольстваў. Напрыклад, у школе існавала строгае правіла: пакуль не скончацца ўсе ўрокі, не выпускаць з будынка вучняў з партфелямі, - і ідэя скідаць кайстры ў акно і затым абыякава праходзіць міма вартаўнікоў, належыла Высоцкаму. Неўзабаве ў яго з'явілася мянушка *"Высата"*, якую той насіў шмат гадоў.

Вучыўся ён добра, але, па ўспамінах бацькоў, дзякуючы сваім здольнасцям, а не стараннасці. Вельмі часта Валодзя на ўроках пачынаў кагосьці паказваць, парадыраваць, чым, натуральна, настаўнікі былі незадаволеныя, у яго з'явіліся "двойкі" па паводзінах. Пляменніца Яўгеніі Сцяпанаўны, Лідзія Мікалаеўна Сарнова, якая не адзін год пражыла разам з Высоцкім у Маскве на Вялікім Карэтным, успамінала такі выпадак:

- ... *Калі Яўгенія Сцяпанаўна з'яжджала ў Кіеў - там служыў Сямён Уладзіміравіч, - мы з Валодзем заставаліся адны... Часам я правярала, як ён вывучыў урокі. Я не верыла, што за паўгадзіны можна прыгатаваць усе хатнія заданні. Ну ніяк не магла паверыць! А аднойчы нават раззлавалася: "Бесталач якая! За трыццаць хвілін ты паспеў зрабіць усе ўрокі!" А Валодзя мне адказвае: "Лідзік, дай мне ўсё, што хочаш, я зараз жа вывучу". Я дала яму Някрасава "Рускія жанчыны", таму што ведала, што гэта цяжка вучыцца. Ды і тэкст даволі вялікі. Даю вам чэснае слова - праз дваццаць хвілін ён выйшаў з іншага пакоя і ўсё распавёў на памяць. "Усё, я больш цябе не правяраю. Пераканаў!".*

Уладзімір Высоцкі ў школьныя гады не адрозніваўся дужым целаскладам. Школа была мужчынская і тут заўсёды былі фізічна моцныя хлопцы. Здаралася, што яны білі Высоцкага. Яго аднакласнік Уладзімір Акімаў успамінае: *"Ён прывык шанаваць і паважаць фізічную сілу і дужыя кулакі. Раёны Масквы, дзе ён жыў, раней лічыліся не вельмі рэспектабельнымі, так сказаць. Адгэтуль яго цікавасць да так званых "блатных" песняў. Гэтая цікавасць паўстала па большай частцы з пачуцця пратэсту..."*

Некаторыя эпізоды з школьнага жыцця Ўладзіміра Высоцкага ўвайшлі ў яго творы. У 8-м класе, на прыклад, выкладчыца заалогіі дала вучням заданне выгадаваць цвіль на кавалку чорнага хлеба. Гэта было вельмі цяжка, бо ў той пасляваенны час усё з'ядалася. Выканаў заданне выдатна і Валодзя... Ён прынёс цвіль на моркве - ці то выгадаваў, ці то выпадкова выявіў і прынёс на ўрок. У настаўніцы было мянушка Морква, таму прабачыць гэтую выхадку Высоцкаму яна не магла да канчатка школы. Пазней гэтая аўтабіяграфічная гісторыя патрапіла ў празаічны твор Высоцкага "Раман аб дзяўчынках" (1977). Гераіня гэтай узрушаюча праўдзівай аповесці, Тамара Палуэктава, распавядае аб сваіх школьных гадах: *"Я заўсёды вучылася добра, і гаварылі, што я самая прыгожая ў класе, і настаўнікі-мужчыны мяне любілі, жанчыны - не. Адна - Тамара Пятроўна, наш класны кіраўнік, настаўнік батанікі, - проста мяне ненавідзела, асабліва калі прычашуся або калі вясёлая. Аднойчы нам далі на дом заданне выгадаваць на хлебе цвіль. Хлеб трэба намачыць і пад шклянку, і праз некалькі дзён на ім - як вата - гэта і ёсць цвіль. Дык вось, у мяне яна на хлебе не вырасла, затое вырасла на гародніне, у нас у скрыні пад кухонным сталом. Я яе нядоўга думаючы, пад шклянку і ў школу: вось глядзіце - вырасла на моркве. І толькі тут успомніла пра мянушку. Быў скандал, выклікалі маці і строга яе папярэдзілі, што я вырасту распушчанай жанчынай".*

Ужо ў той час Уладзімір умеў цікава распавядаць, разыгрываць усякія гісторыі. *"Пішу я вельмі даўно. З васьмі гадоў пісаў я ўсякія вершы, дзіцячыя вершы пра салют, - успамінаў ён, - А потым, калі крышку падрос, пісаў разнастайныя пародыі..."* У школе Ўладзімір часта складаў эпіграмы на сваіх аднакласнікаў, знаёмых.

У школьныя гады Ўладзімір Высоцкі захапляўся літаратурай, асабліва паэзіяй "срэбнага стагоддзя". А ў дзяцінстве, калі бацька забараняў яму чытаць у пасцелі, каб не сапсаваць зрок, ён залазіў пад коўдру з кніжкай і ліхтарыкам.

Побач са школай, дзе вучыўся Ўладзімір, знаходзілася жаночая N 187. Аднойчы ў 10-м класе ён і некалькі яго аднакласнікаў пайшлі туды на агульны вечар, прысвечаны 7 лістапада. Свята праходзіла казённа і сумна. Дзяўчынкам было нецікава. І тут Высоцкі выйшаў на сцэну і распавёў пародыю на байку Крылова. Гледачы ажывіліся, у зале смяяліся і пляскалі, але... Уладзімір за гэта атрымаў тройку ў першай чвэрці і аб медалі, да якога ён імкнуўся, не магло быць і мовы.

# Каляндар святаў, прысвяткаў, абрадаў ды прыкметаў ад Юрыя Гіля

ТРАВЕНЬ (МАЙ)

Гэта пяты месяц у календары года і трэці вясны. Слова "май" у беларускаю мову запазычана ад рымлян, якія прысвячалі багіні зямлі Маі.

Гэта найпрыгажэйшая пара года, калі цвітуць дрэвы, кусты і кветкі, природа поўніцца спевамі птушак. А на палях рунеюць азімыя, узыходзяць яравыя.

У народзе гавораць: "Май – і пад кустом рай". Яшчэ гэты месяц называюць і "травень, травы росціць". Вясна раскрываецца па ўсёй сваёй прыгажосці, наваколле напаўняецца разнастайнасцю гукаў і фарбаў. Першы цуд – гэта белы сад, які патанае па-веснавому ў раскінутых галінах. Заканчваецца вяртанне з цёплых краёў пералётных птушак. Яны будуюць сабе гнёзды, а некаторыя ўжо пабудавалі, і даўно самкі сядзяць на яйках (гракі, шпакі, жаваранкі).

У адной з гукальных песняў-вяснянак ёсць такія словы: *"Вясна, вясна на калочку. Не напрала на сарочку!"*... гэта роспач маладой праллі, якая не паспела справіць сабе абнову за зімовы перыяд. А наступіла вясна і пачаліся іншыя ўжо работы.

Пра гэтыя месяц ёсць і такія прыкметы: *"Май! – коням сена дай. А сам на печ уцякай"; "Мароз казаў: і ў маі тры дні маю"; "Сухі марац, мокры май, будзе жыту ўраджай"; "Дождж у маі – будзе хлеба і на гультаі"; "Не марнуй часу дарэмна, вясна пройдзе – не вернеш"; "Зямля – талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш".*

**1-га траўня** – Дзень працы, свята адзначалі шмат у якіх краінах, у тым ліку і ў Беларусі.

У гэты дзень яшчэ і прысвяткак – Кузьма. Лічылася, што патрэбна было сеяць городніну (моркву, буракі), але трэба было сачыць, каб у поўню. Тады городніна вырасце вялікая, поўная. Калі ноч пад першы дзень траўня зорная і вее цёплы паўдзённы вецер, то лета будзе з бурамі, але цёплае і ўраджайнае.

**5-га траўня** – Ляльнік, свята ў гонар багіні Лялі: вакол прыгожай дзяўчыны, абранай не ролю Лялі, вадзілі карагоды. Яна ўсім дзяўчатам раздавала вянкі, якія пры замужжы былі запаветнымі, святымі.

**6-га траўня** – Юр'я (Юрай, Ягор'е), веснавое свята у праваслаўных у гонар вялікапакутніка Георгія Пераможца. Святы Юры у хрысціянскі перыяд замяніў Ярылу. Гэта свята больш, чым якое прэтэндуе на сапраўдны пачатак вясны. Менавіта з Юр'я пачынае куваць зязюля. Менавіта з Юр'я сяляне выходзілі з песнямі і ахвярнымі стравамі аглядаць свае зарунелыя палеткі. Казалі: *"Калі прыдзе Юры, не углезіш у жыце куры"*. З Юр'ем звязваўся і першы выпас скаціны (запасаў для яе павінна было хапіць, як мінімум да гэтага дня: *"На Юр'я сена было і ў дурня"*. Дбайны гаспадар не прапускаў без увагі надвор'я ў гэты дзень і рабіў длясябе пэўныя вывады: *"Калі на Ягор'я мароз, будзе добры асёс"*.

Снег на Юр'я падаваў надзею, што ўлетку пабялеюць палі ад удалай грэчкі, і наадварот – *"Як на Юр'я пагода, то на грэчку няўрода (няўраджай)"*. Густы Юр'еўскі дождж упэўніваў селяніна, што вырасце густое, вялікае жыта. Жыватворная Юр'еўская раса таксама абяцала прыбытак: *"Калі на Юр'я раса – хопіць коням аўса"*.

Галоўнай адказнасцю, якой народ надзяліў святога Юр'я, было апякунства хатняй жывёлы і гаспадаркі. Адначасова Юр'я называлі і валадарам ваўкоў. У народзе заяўлялі, што ён ездзе на белым кані і замыкае пашчы дзікім звярам, пасля чаго тыя менш нападаюць на жывёлу. Статак стараліся выгнаць зараня на цудадзейнаю расу, каб потым мець удосталь малака. За лепшае лічылі, калі выпас супадаў з поўняю, "каб усяго было поўна". Перад тым, як выгнаць жывёлу на выпас, гаспадар тройчы абыходзіў з запаленай грамнічнай свечкай і апырскваў яе свяцонай вадой, абкурвалі жывёлу падпаленымі купальскімі зёлкамі. Выганялі скаціну з хлява, пасцёбваючы асвечанымі на Вербніцу галінкамі вярбы. Зátым яе ўтыкалі ў хляве ад злых духаў. На парозе хлява перад жывёлай клалі розныя сімвалічныя прадметы: курынае яйка – нібы для таго, каб заткнуць ім пашчу ваўку і каб каровы былі поўныя і круглыя, а калі яйка заставалася цэлае пасля праходу жывёлы, спадзяваліся, што і жывёла будзе сёлета цэлая; замкнуты замок пад нагамі худобы павінен быць выступаць як ахоўны сродак ад ваўкоў. Гаварылі; – "някай так за-мкцецца яго пашча на ўсё лета".

Клалі таксама ніты ад кроснаў, варожачы: *"Як гадзюка не разбярэ, так ад кароўкі малака не адбярэ"*. Сякеру клалі, "каб бараніць ёю гавяду ад нячыстай сілы і чарадзеяў". Жменя выцягнутай са страхі саломы ці пояс азначалі, што жывёла не будзе адходзіць ад дому; пакладзены бязмен мусіў садзейнічаць таму, каб жывёла павялічвалася ў вазе. Выпас жывёлы на Юр'я быў святам і для пастухоў. Для іх гаспадары рабілі пачастункі (закускі), а тыя на пашы гэта ўжывалі. У першы дзень пастухі не павінны рабіць ніякіх пазык, не бралі яны ў поле агню, нажа (вастрыць яго першы раз на вясну, гонячы статак, значыла б вастрыць ваўку зубы).

**8-га траўня** – праваслаўныя памінаюць евангеліста святога Марка. "які валодае ключом ад дажджоў". і яму моляцца, каб ён не замыкаў дажджу. і каб не было засухі.

У каталікаў - Станіслава. *"Сей гуркі на Станіслава."*

**10-га траўня** – Ярылавіца, язычніцкае свята. Выезд Ярылы ў поле.

**11-га траўня** – у каталікаў дзень Францішка.

**13-га траўня** – у праваслаўных Якуб, (апостал), пра якога кажуць: "На Якуба, дзе люба". Гэта прыкмета звязвалася з днём набліжэння цяпла.

**15 –га траўня** – Дзень Барыса і Глеба: "Барыс па межах ходзіць, поле дзеліць".

У гэты дзень шанаваліся крыніцы, якія не замярзалі і лічыліся гаючымі ад хваробы вачэй. Шмат дзе ў гэты дзень не дазвалялася працаваць, хоця і не пасцоль.

Але гэта была ўжо гарачая веснавая пара і селянін не сядзеў дома спакойна. Пры-казка: "Святы Барыс – коні пасець, прывёўшы дамоў, закладывацець..." "баранцець, поле раўнуець...", "ляды паліць", "ячмень сеець поўнай з поўнай сявенькі, з правай жменькі, кіне рэдка – дасць Бог густа". На Барыса (у розных месцовасцях) лічылася неабходным сеяць дзе бульбу, дзе боб, дзе цыбулю.

**21-га траўня** – Іван Веснавы (Іаан Багаслоў). На гэты дзень прыходзіліся ў казанні, што і на Барыса.

Не выкарыстоўвалі коней, каб пазбегнуць у будучым няшчасных здарэнняў з імі.

На агародах садзілі моркву, агуркі, рэдзьку, цыбулю. Гаспадыні пры гэтым высока падтыкалі спадніцы, спадзеючыся, што ўсё пасаджанае вырасце высока, і хапаліся за калена з упэўненасцю, што гэтакая ж круглая і тоўстая будзе гароднiна. Іван Багаслоў непасрэдна папярэднічаў дню Міколы і пагэтаму у народзе называўся "Міколiным бацькам".

**22-га траўня** – Мікола веснавы (ці летні), свята пастухоў, апякун земляробства.

"Да Міколы няма дабра ніколі". "Святы Мікола па межах ходзіць, жыта раўнуець... дзе вымакла – там падсушыць, дзе высахла – там падмочыць"; "Мікола стары сявец, ячмень сеець... з левай ручкі засяваець, кінець рэдка – расцець метка", - і "траву расціць, і скот пасціць".

Святы Мікола лічыўся святам конюхаў. Каб засцерагчы коней ад свавольства ведзьмаў, пастухі абкурвалі коней прыхаванымі купальскімі зёлкамі. З Міколiнага дня трэба было паспяшацца пастрыгчы авечак, пакуль яны не пачалі ліняць.

**23-га траўня** – імя святога Зілота, якое адзначалася ў гэты дзень, выклікала ў чалавека асацыяцыю з золатам. А адкуль магло прыйсці багацце земляробу, як не з палеткаў, апрацаваных ім? Вось і звязваў гаспадар гэты дзень веснавы з вытокам дабрабыту: "Сей пшаніцу на Зілота – яна будзе, як злота". Часам пад вечар гэтага дня высявалі і каноплі.

**24-га траўня** – у праваслаўных дзень святога Мокія. Яго называюць надвор'е-ўказальнікам на ўсё лета. Кажуць: *"На Мокія мокра – чакай лета яшчэ макрэй"*.

**24-га траўня** – Кірыл і Мяфод. "Калі гэты дзень сухі, то ўсё лета будзе сухое, калі мокры – лета мокрае", - так меркавалі.

**25-га траўня** – дзень святога Епіфана, якія ўказвае на пагоду. "Калі на Епіфанія раніца у чырвоным сарафане (г.зн. ясная ранішняя зорка) – будзе пажарнае (гарачае) лета".

**27-га траўня** – дзень Сідара. у які дапускаўся налёт халодных ветроў: *"Прыйшлі Сідары – прыйшлі і сіверы"*.

**28-га траўня** – Пахом. Кажуць: *"Святы Пахом – павее цяплом"*.

На Пахома дазвалялася рабіць, а пакольі ён быў апякуном агародніцтва, то абавязкова ў гэты дзень стараліся пасадзіць агуркі: *"Пасееш агуркі калі Пахом – будзеш хадзіць з мяхом"*, г.зн. збярэш шмат агуркоў на агародзе.

**29-га траўня** – у каталікаў Магдалена, якая "зязюльку прысылае".

**30-га траўня** – у гэты дзень гавораць так: *"Дождж у маі лішнім не бывае – хлябы паднімае"*.

**31-га траўня** – Сем дзеў. Раілася лён сеяць не пазней гэтага дня Сеялі таксама і каноплі, арыентуючыся на імя адной з дзеў – Матруны: *"Канапелька Матруна, штоб ты ў зямлю махнула!"*.

Да цёплых, веснавых травеньскіх дзён прыгадаем вершык Адама Русака

**"Нарадзіўся ў маі"**

Нарадзіўся я ў маі,  
Як сады вакол цвілі,  
У наднёманскім гаі  
Распявалі салаўі.  
Маці кажа: "Угадала  
Выбраць хлопчыку дзянёк,  
Будзе ён музыка ўдалы  
Чарнавокі мой сынок."  
Чаравалі мяне струны,  
Звонкіх сосен, шумных ніў,  
Я душою шчырай песні  
Краю роднага любіў...  
А як гляну – расцвітае,  
Вольны, песенны мой край,  
Сэрца ў радасці спявае,  
Не дае старэць мне май.

# Трэба мець і гонар, панкі-рэперы!

Модна сёння стала ў маладзёвых музычных групах не толькі ў сталіцы, але і ў глыбінцы, выпускаць альбомы-запісы сваіх песень, на ўласныя вершыкі і пад гітару. Слуцк у гэтым плане не выключэнне. У канцы мінулага году тутэйшая рэп-каманда з падлеткаў не школьнага ўзросту "Исходная позиция" прадставіла 15 так званых трэкаў, аб'яднаных назвай "Точка отсчёта", свайго роду альбом, які быў анансаваны на Слуцкім інтэрнэт-форуме. Што ў тым альбоме, якія песні прадставілі маладыя панкі-рэперы? З першага трэку заявілі, што яны – гарадскія хлопцы, прасоўваемся, мауляў, самі, каб сталіцай хіп-хопа родны Слуцк назвалі. Ні болей, ні меней! А далей – тэксты імі складзеных песень, дзе лірыкай і не пахне: "Наша гордость и наша молодость, што стоит за нами – это гордость" (?). Змест далейшых тэкстаў засмучаюць погляды на ідэалы і развагі над тым, якім павінен быць "настоящий пацан":

*Пацаны – всё на чести,*  
*Пацаны – друг за друга,*  
*Пацаны – без испуга,*  
*Если надо помочь кому –*  
*Не откажут.*

Быццам і не дрэнна на першы погляд. Але вось следам ідуць развагі на жыццё, якім ісці па ім:

*Иди вперёд и не думай,*  
*Как другие!*  
*Забудь обо всём*  
*И живи на позитиве –*  
*И всё будет путём.*

Тэксты трэкаў выключна расійскамоўныя. І ў філасофскіх, любоўных развагах ні слова пра заняпад нацыянальнай культуры, самасвядомасці, трывогі за лёс краіны, за яе незалежнасць. На радасць кіраўнікам раённай суполкі БРСМ – і толькі. Здаецца, быццам "пацаны", што складаюць свае трэкі, прыехалі ў Слуцк з расейскай глухой глыбінкі, недзе з Пензенскай губерні, з тых пячораў, дзе хаваліся вернікі-пратэстанты! Вось вам наглядны урок, што можа за 10-12 гадоў расейскамоўная школа са свядомасцю беларускіх "пацаноў" – аб гэтым, пасля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага, марыў губернатар-вешальнік Мураўёў: "Что не смоглі сделать русские штыки, то сделают рускаязычные школы"

Трапна наконт гэтага занядбання ўсяго свайго нацыянальнага сказаў у інтэрвію газеце "ЛіМ" народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка: "Трэба мець гонар сказаць: "Я – беларус. Не трэба нам быць самаедамі, прыніжаць свой народ і сваю культуру".

Да гэтых праўдзівых слоў можна дадаць радкі з верша вядомага беларускага паэта Васіля Зуёнка, надрукаванага ў шостым нумары часопіса "Дзеяслоў" за мінулы год:

*Зямля мая, маці мая, няўжо*  
*Мы лёс такі заслужылі,*  
*Што будзем думаць*  
*На мове чужой,*  
*І песні співаць чужыя?*

Шкада, што гэтыя трывожныя, якія б'юць у самае сэрца шчырых беларусаў, радкі не прачытаюць сачыніцелі тых 15 трэкаў, якія ўжо, як засведчыла адна мясцовая газета, паспелі "скачаць" на мясцовым Інтэрнэт-форуме гарадскія аматары поп-музыкі і іх дыскі ўжо "гуляюць" сярод аматараў іх.

*Мікола Кутнявецкі, г. Слуцк.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 27 сакавіка 2007 г.
Адрас рэдакцыі: 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 21. 01. 2008 г. у 10.00. Замова № 4.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 1680 руб., 3 мес.- 5040 руб.
Кошт у розніцу: па дамоўленасці.